*Мікола Мятліцкі*

# ПАЛЕСКІ СМУТАК

ВЕРШЫ І ПАЭМА

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1991

ББК 84Бел7
М 99

Мастак Ю. У. Якавенка

«Полесская печаль» — продолжение искреннего разговора с читателем лауреата премии Ленинского комсомола Белоруссии поэта Миколы Метлицкого. В эпицентре поэтической заботы — человек-современник, от дел и стремлений которого всецело зависит духовная полнота нашего цивилизованного бытия. Печаль лирического героя просветлена неизбежным ходом перемен; активность гражданской позиции страстно опровергает явления местническо-приземленной психологии вчерашних «слуг народа», чьими усилиями был создан в 50—70-е годы печально известный застой.

М $\frac{4702120202-104}{М\ 302(03)-91}$ 63—91

ISBN 5-340-00655-7 



*Як шугалі бліскавіцы —*
*Зіхата сырых нябёс,*
*Бляск калышучы ў ігліцы,*
*Бор чупрынай хмурай трос.*

*Ды адна мільгнула ярай*
*І — агністая страла,*
*Страпянуўшы лес ударам,*
*Жар хваіне аддала.*

*І ляцела з хрустам голле,*
*Сек дажджу тугі заслон.*
*І гучала свету воля.*
*Навальнічны гус азон.*



Калі айчыннай памяці правалы
На плыні дзён ускружаць цяруху,
Тады застойна, моташна прывалы
На чалавечым ладзяцца шляху.

Тады гудуць пацех пустыя шквалы,
І ўсе —
падатны самазабыццю.
І новых эр крутыя перавалы
Так лёгкакрыла бачацца Жыццю.

Тады усе —
прызнаныя маэстры,
І пена ўцехі аблятае з губ.
І салютуюць у адным аркестры
Мільёны душ, нібы мільёны труб.

Набіўшы звягі горкую аскому,
Тады гандлююць светам махляры.
Ды...
наступае
горды міг пад'ёму,
Пабудку душ ён трубіць на зары.

І зноў ідзём, упартыя, па шляху
Туды, дзе праўды выбліскне святло,
Падсудна,
гнеўна кінуўшы на плаху
Пустых ілюзій моташнае тхло.

І зноў — у руху, велічы і слове
Зліюцца сілы, гойстрым стане зрок.
На бальшаках, што век паслаў суровы,
Упартасці зямной нап'ецца крок.

Занятыя прачыстаю сяўбою
На ўсіх айчынных раніпшніх палях,
Мы зноўку бачым сонца над сабою,
Мы зноўку верым пераможна ў шлях.



Хто пасее тое зерне
(Поле — потная ралля),
Што душы спатолю верне,
Ўзыдзе песняй з мазаля?

Хто зачэрпне жменяй поўнай
Слова-золата з сяўні,
Што над цішай безназоўнай
Разгушкае нашы дні?

Сцюжна матчынаму полю,
Вузкім стаў засеву клін.
Аплятае нашу долю
Густа зрошаны палын.

# Балеснае

Уведаўшы і поту, і крыві,
Брыдзеш, мая гвалтоўная эпоха,
Дыктуеш мне настойліва: — Жыві
Зжабрачанаю доляй скамароха.

Абкраўшы свет рукамі ліхвяроў,
Спаўна адорыш горкаю журбою
Паміж магіл, паміж цямніц муроў,
Узнёсшы крыж пакуты над сабою.

Крывавым злом закладзены твой код,
Ахвярная жыцця майго пакута.
Бунтарыць дух! Адно жадае: ход
Бяздумных дзён крутнуць пад небам крута.

Парваўшы з ніцавокім і гнілым,
З усім, што творыць вогненныя дзеі,
Ўзысці душой і сэрцам над былым,
Аддаць Зямлю адрынутай Надзеі!

# Спачуванні



Паспачуваю бюракрату,
Каму жыццё дало па блату
Усе магчымыя чыны.
Ды, праўды чуючы адплату,
Ляцяць-трапічаць па швах яны!



Таму выношу спачуванне,
Хто дзёрзкай мары парыванне
Паклаў пад тоўстае сукно,
Чыё зямное бытаванне
Зайздросна іншаму відно.



Яшчэ мой голас спачувае
Таму, хто тэнарам спявае
На сцэне ўсіх сучасных дзей,
Чало хто ў лаўры спавівае,
Адвёўшы вочы ад людзей.



Шапчу — у позні час і ў ранні —
Душой прачулай спачуванні
Таму заўзятаю, які
Адметным быў пры выкананні
Замашак культаўскай рукі.



Я спачуваю тым рупліўцам,
Хто пачуваў сябе шчасліўцам
Без мовы матчынай паўсюль.
Кажу такім забойцам-хціўцам
«Бязродны» — голасам матуль.



О служка грознае Феміды,
Уцеху чулую прымі ты
Ад родных хат, ад родных ніў.
На ўзвышшы ўладнай піраміды
Каго караў і бараніў?!



Я спачуваю браканьеру,
Хто бачыў з юшкаю вячэру,
Ды быў ухоплены за чуб.
Урон рацэ з усмешкай меру
Прад тым, што мкне з атрутных труб.



Паспачуваць хачу сардэчна
Таму, хто дбае чалавечна
Пра ўсеагульны дабрабыт.
Ды помніць: «Жытка — быстрацечна»,
Ківае пальчыкам нябыт.



Прыміце словы-спачуванні
І вы, хто змогся у змаганні
Адстойваць прынцыпы свае,
Каго ў нястрымным парыванні
Пад дых сам час пальчаткай б'е.



Гарланіце бяспамятна аб чым,
Зямлі маёй кудлатыя прарокі?
Магілы скрозь.
Давайце памаўчым,
У звоне рос пачуем продкаў крокі.

Багата тут павыліта крыві.
Зірнеш наўсцяж —
чарнеюць густа пліты.
Мой дзень, душой прад імі не крыві,
Твой ясны блік
ці кожнаму адкрыты?

І мне ў нашэптах мокрага лісця,
Калі зарою неба засвітае,
Падасца:
гэта яра кроў Жыцця
Агністай барвай
з глебы прарастае.

* * *

Нам вочы праўда ўраз адкрыла,
Прамень яе з нязнанай сілай
Прайшоў зямлю — з канца ў канец.
Ўваскрэсла праўда над магілай!
Святла закладзены вянец.

Не мружце воч — пільней глядзіце:
Нябёсы веснія ў блакіце,
Якая плодная ралля!
Сяўбу Надзеі не праспіце,
Не кіньце семя бадылля.

Аднойчы нам далося тое:
Пачуць, як ёсць, жыццё жывое,
Пазнаць у ранішнім святле,—
Гняздуе зболеная мроя
На сцятай сіверам скале.

То нам — падняць яе на крылы,
Развеяць ночы змрок пастылы,
Вярнуўшы помна з забыцця
Святыні,
храмы
і магілы —
Спатолю веры
І жыцця!

2 Зак. 519

# Пра Беларусь

Колішні час у зняменні?
Зоры вышэйшымі сталі?
Пра Беларусь —
Думае Ленін...
Пра Беларусь —
Думае Сталін...



З якіх цянёт гісторыі сівой
Ўзышоў народ душой прачысты твой,
О Беларусь? Якое легла жыта
На ніве непаўторнай, агнявой,—
Сягоння свету беламу скажы ты.

Пазнала ты тварца пагляд тупы.
Як малацілі-ляскалі цапы,
Крывёю заплывалі Курапаты.
Як сеяў лёс, на радасці скупы,
На полі долі незлічона траты.

Як зеўрала зміястая мяжа,
Рэпрэсій ліпла чорная імжа,
Як над табой цягнулі руку згоды
Да тых, хто свет патопіць у крыжах,
Крывёй зальё збалелыя народы.

Як уставала сонца з туманоў,
Як сцятым шэптам працінала зноў
Твае, бядой аглушаныя, вушы.

На пікі ўсіх айчынных курганоў
Плявалі як з вышы твае чынушы.

Як эглухла мова спеўная твая,
Змутнела ў згубе Прыпяці бруя,
Дажджы—наскрозь—цярусяць кіслатою.
Як песня захлынаецца мая
Няўцешліва салёнай кропляй тою.

Як чынна і прывычна — дзень пры дні —
У бюракрачай, з'еднай тупатні
Пра дабрабыт твой думалі надзённы,
Пасеяўшы бяздушша камяні,
Не помнячы сыноў тваіх імёны.

Як будавалі лад на свой капыл,
Аддаўшы ўзлёт ілжэдухоўных сіл,
Да згоднай згубы сэрца прыручалі.
Паэты як над памяццю магіл
Услужліва аб тым твае маўчалі.

Устаўшы з пракаветнай баразны,
Пра новы дзень твой думаюць сыны.
Дай кожнаму спатолліваю сілу,
Збудзі іх думы, летуценні, сны,
Забі сваю магчымую магілу,
О Беларусь!



На вечным дрэве галінка — хрусь.
Меней у сцюжным свеце праталін.
Ленін думаў —
Пра Беларусь...
Пра Беларусь —
Думаў Сталін...



Колькі вас, ачарсцвелыя сэрцы,
Глумна каркае гэтай зямлі,
Мерацъ рупнасць па колішняй мерцы.
Вашы зоры на небе зайшлі.

Падступаецца ў ядзерным гудзе
Дня зямнога астатні заход.
Нарадзіліся новыя суддзі —
Прачынаецца гневам народ.



Ганіце з душ угодлівы спакой,
У нас багата прад жыццём віны.
Устала сонца ў далі за ракой —
Ідзе знаменнем з мёртвай стараны,
Жагнае свет журбінаю цяжкой.

Няўжо нам жыць бяздумнасцю сляпой
У спадзяванні: нас не апраменіць,
Чыноўны довад старасці скупой
Трагічны дзень на поўніцу ацэніць?
А неба сыпле ядзернай крупой.

Няўжо чакаць бяспечнай маладосці,
Якой забавы шумныя з рукі,
Калі наскрозь праточыць стронцый косці,
Каб рынуцца на бой за род людскі,
За светлы міг духоўнай прыгажосці?

# Балада пра плот

Зялёны плот мне вочы коле,
Стаіць паміж залеў, спякот.
Над круцізной народнай долі
Высокі плот, ампэлы плот.

Узяўшы плошчу шчыльна ў сховы,
Каторы дзень, каторы год
Над пачуццём перабудовы
Высокі плот, ампэлы плот.

Стаяць маны цяжкія краты
Над слыннай памяццю зямлі.
Заслон ад праўды бюракраты
З патуг ампэлых узвялі.

Паверыць дай, што гэта прымхі.
Малю Айчыны небясі,
Што сёння, плот, аковы прымеш
І волі розгалас дасі.

Як туга сціснуты папругі
Духоўна ўсохлага дабра.
О вы, айчынныя хапугі,
Вам зразумець даўно пара:

Народа лёс паліты потам,
Крывёй наліты мазалі,
Сыны яго за іншым плотам
Здавён наводшыбе былі.

Адкрыйце душ мізэрных сховы:
Ваш марыць плот, што прыйдзе дзень
І сонечнай перабудовы
Астатні выблісне прамень.

І ўзыдзе ява — эшафотам,
І стане спудным кожны крок.
І раскашуе зноў за плотам
Глыбокі змрок, таемны змрок.

Час ад ухвалы да апалы
У холад зябкае жарствы?
На геній вечнага Купалы
Ярлык наклеівалі — вы!

Шапталі ўцешна казкі-былі
Пра любы край, пра ўласны род,
Ды ўсё ж сябе адных любілі,
Душой схаваўшыся за плот.

Вы сталі розумам, аплотам,
А самі — млелі ад шчадрот.
Багата год пад вашым плотам
Співаўся, моўчкі спаў народ.

Гляджу наўкол —
якія страты,
Якія духу дзірваны.
Ваш плот высокі, гарлахваты,
За ім гняздуе рай зямны.

Ды ўсё ж я веру: хопіць поту!
У гэты дзень, у час такі
Народ павырве з дошак плоту
Заіржавелыя цвікі.

Ён скажа свету ў абнаўленні
Над вашай чэляддзю глухой:
Мой дух збудзіў Вялікі Ленін,
А вы — услед ішлі... трухой.

Народзе мой, якія словы
Ты шэпчаш, зорачы вачмі?
Вялікі час перабудовы
Душой абуджанай прымі!

Дрыжэць не любяць гарлахваты,
У іх — свой ростук праваты.
За боль зямлі, за духу страты
Карчуй, народ, маны платы!

# Балада пра ціхіх

Вы ціхімі былі
У дні ахвярных сечаў.
І ўдала берaглі
Свой воблік чалавечы.

Не боўталі елей
Вялікаму Прароку,
Былі, былі далей —
Ад згубы на паўкроку.

Ды быў няўмольны час,
Не адступіўся ціха.
І ўдарыла па вас
Даносаў хцівых ліха.

Вы ціха-згодна йшлі,
Балела сэрца востра.
Ў сырэчае зямлі
Пыталіся: завошта?!

За думак ціхі ток,
Дзе з краю — ваша хата.
Пакорай да аблок
Узнеслі саміката.

І ён, на грэбні мас
Усчаўшы пераплаўку,
Спаўна зрабіў на вас,
На вашу цішу
Стаўку.

Вады набраўшы ў рот,
Вы прамаўчаць хацелі.
Калі маўчыць народ,—
Сцялі магіл пасцелі!

Былі ніжэй травы
На чорным дне прадоння.
Як ціха-ціха...
Вы
Маўчыце і сягоння.

# Купалаўская балада

Водбліск трывогі нязбытай
На небасхіле зямлі.
Лесвіца...
З чорным нябытам
Вы размінуцца маглі!

Толькі б паменела страху,
Чэзласці зрынуўся лёд
Ў тых, хто прыдумаў не плаху —
Мары астатні палёт.

Чым Вы зрабіліся шкодным?
Тым, што ў нашэсці бяды
Верылі — будзе свабодным
Край, што нязломны заўжды?

Тым, што нястомнаю сілай
Голас будзіў змагароў,
Гнеўна душа кіпяціла
Помсты народнае кроў?

Лёсу напятыя стропы
Сэрца ўтрымаць не змаглі.
Хіжай хадой далакопы
З даляў пахмурых ішлі.

Край мой, прасветляцца далі
Змрочнага часу твайго.
Бачым: каго забівалі,
Ціха душылі каго.



Не спытаеш у хмары:
— Куды?
Не спытаеш:
— Куды?
У бяды.
На чаканы падказ
Свет глухі.
Не пазначаны
Згубы шляхі.

Толькі зможаш
Спытаць у сябе:
Хопіць моцы
Ў ліхой барацьбе?
Глянеш:
Продкаў усюды сляды
Пад хмурынай
На полі бяды.

## Маё сонца

Сцінае дыханне
Разгалоссе трагедый.
Усе яны,
Зеўрачы акамянелым страхам,
Выплываюць з глыбіняў
Памяці чалавецтва,
Кажуць адно:
Гэта твая зямля,
Твая воля і доля,
Тваё сонца!..

Не — і тысячу не!
На маім небе сонца тых,
У чыіх зрэнках астыг,
Закаціўся
Яго промень жывы
На палях усіх зямных
Сечаў...

Гэта твая зямля,
Твая воля і доля!
Не — і тысячу не!
Тых зямля пад нагамі,
Чые магілы,
Уцятыя ў дзірваны забыцця,
Грэюць яе чорныя грудзі...

Я і сам
Аднойчы
Падамся следам за імі,

Нахадзіўшыся пыльнымі бальшакамі
Жыцця,
Сатварыўшы дзеі свае,
Даўшы ім
Зямныя імёны.

І тады,
Толькі тады,
Устане над гэтай зямлёй
Маё сонца...

# Нарач

1

Восеньскай Нарачы стомлены ўздых,
Болесна просіцца слова.
Роздыхам думак і мар маладых
Кліча бальшак Куляшова.

Ценькая небная зорная выш,
Вечнасцю далеч працята.
Млечнага Шляху двухрукі спарыш,
Вечнага Шляху пачатак.

І абзавецца ў раскутай вышы
Небны бальшак Куляшова.
Слухае сэрца ў міжзорнай цішы
Самае спелае слова.

2

Пенная Нарач. І сэрца маё.
Сосен зялёная схова.
Точыцца ў грудзі тугі вастрыё:
Журыцца верш Куляшова.

Ціха нашэпчуць галіны бяроз
Хваляй вятрыстай, густою:
Сэрцам адрынуў паэт, перарос
Сумную сутнасць застою.

## Аксане Фёдараўне Куляшовай

Люблю ваш дом гасцінны, баба Ксаня.
Над Нараччу, за музыкай дарог —
Высокі чалавечнасці парог.
У сценах — цеплыні жывой дыханне.

І вось... ідзе, ступае золка ранне,
І возера прасветліцца чало.
І сыдзе, у туманы схлыне зло.
Пачнецца ў свеце сонца чараванне,

Упырскне ў вочы жывісты блакіт,
Абудзіць рукі, ўмелыя у працы.
Святлом жыцця высокім загарацца
І памяць набалелая, і быт.

Пад яблынямі шчэціцца трава,
Ляжаць глыбока роснаму ападу;
Цяпліцу ўнук паставіў, як прынаду,
Наўкруг свавольна гойсае дзятва.

А потым звечарэе — і за чай.
Гаворкі шчырай зболенае слова.
Твардоўскі зноў ідзе да Куляшова.
Махнеш рукой і скажаш: выбачай...

А я злаўлю высокай хвілі ўзлёт,
Калі, мінуўшы страчаныя леты,
Зямлю адну пачулі два паэты,
Сюды ступіўшы з вечнасці шырот.

І восені ацíхла гамана.
Стаю, каўтаю даўкія хвіліны.
Мне шэпча боль: пад клінам жураўліным
Журліва плача
Вечнасці віна....



У садзе маім
Белая яблыня звонам расы
Пудзіць пчалу,
Сонца —
Прыпарам веснім
Ліецца.
Чутна шпокаюцца пупышкі —
Адорваюць клейкім лістом
Пругкія струны часу.

(Ім спяваць зелена-юна,
Покуль барвяным агнём не згарэць
Восенню мглістай.)

У кветках
Завязь бярэцца —
І пацяжэюць галіны
Пад ношаю пладаносу,
Карэнні прагныя смокчуць
Глыбокія сокі
На дзірване стагоддзяў.
(Багата сышло іх
Шчодрым сяйвом,
Каб вось так, ройна,
Уваскрэсіць
Адно імгненне вясны.)

Жук, тля і мошка
Палююць за цветам,
Дажджы кіслотныя

Абіваюць пялёсткі,
Вецер рассейвае наўкруга
Белую мрою вясны.

Ды я спадзяюся:
На дол траўнай вечнасці
Упадзе яблык наліты,
Кісла-салодкі
На смак,
Пад скуркай чырванашчокай якога
Сальюцца ўсе сокі
Жыцця...

* * *

Прарастаю з былін,
Вырастаю з паданняў
Між чырвоных калін
На загрыўках курганняў.

Хмурай памяці лёх
Адмыкаю — шукаю.
Прарастаю з эпох,
З дзён былых — вырастаю.

Там былінны сыпчак
Перамыты крывёю,
Адзічэла крычаць
Совы мёртваму вою.

Смягне чорны ручэй
У цянётах ажыны.
Прарастаю [redacted] вачэй
Ацалелай дружыны.

Вольны роздых нябёс
Крэпіць мрою жывую.
Не крыўдую на лёс,
Ні аб чым не шкадую.

Не зыначыш тых дзей,
Не супыніш тых сечаў.
Ад людзей да людзей
Крочыш думна на веча.



Дарожны смог. І белы сум бяроз.
Прадзьмі наскрозь пуціну свету, вецер!
Бярозам родным выпаў горкі лёс:
Гушкаць нямогла высахлае вецце.

Віруе ў гонцы моташнай шашы,
І крояць цемру ўсхліпы светлавыя.
Бярозы ў смогу. Ледзь яны жывыя.
І меркне ўслед, сцінаецца душа.

Пралёг бальшак ля хаты той, дзе рос.
Куды нясеш мяне, выгнання лёс?



Гэта лесу розгалас птушыны
Страпянуўся золакам — душа!
Росныя галоўкі канюшыны
Заірдзелі ў промені спярша.

Забуяла ў фарбах волкім цветам
Космасам працятая зямля.
Расцвіла высокім буйным летам
На маленькіх крыльцах матыля.

Вось над роснай кветкаю пырхае —
Вечны міг дрыготкае красы.
І дыханне свету заціхае,
Цішацца трагедый галасы.

* * *

Абступаюць цябе
Дрэвы,
Павыйшаўшы з пазабытых часаў,
Раскінуўшы лісцвянае голле,
Каб выдыхнуць табе
Кісларод.

Абступаюць цябе
Ветры,
Успалошаныя
Над мацерыкамі
Весты і Осты,
Каб выцерці прахалодай
Пот
На вечнай дарозе.

Абступаюць цябе
Курганы,
Адзічэўшы маўкліва, забыта
Паміж каласістых палёў,
Грэючы сэрца тваё
Айчыннаю памяццю радаводу.

Дрэвы гушкаюць птушак —
Спявайце гімны твайму быццю!
Ветры махаюць крыламі —
Астынь ад крывавых сечаў!
Курганы ў палях Айчыны
Падказваюць:
Пасярод іх знойдзеш спачын!

Усё,
Наўкруга абступіўшы цябе,
Адно і тое ж гаворыць:
Мы твае спадарожнікі,
Мы твае творцы,
Мы твая бессмяротнасць...

Так і будзе яно:
Душа — акрыліцца дрэвам,
Розум — калыхнецца ветрам,
А цела — маленькай жменькай зямлі
Астыне ў кургане.

Я тут астануся,
Калі нават не буду...

Вырастуць новыя дрэвы,
Калыхнуцца свежыя ветры,
Узыдуць сівыя курганы...

# Горад

Нястомна, у звыклых клапотах,
Адскрыпелі падэшвамі
Па лабірынтах вулак і вуліц
Гады,
Спыняліся ў летняй сухоце
На тваіх плошчах,
Перабіраючы вачамі
Рыначныя рады,
Цмокалі, кратаючы пальцамі
Стракаты россып рамёслаў.
Набожным узлётам рукі
Жагналіся на крыжы,
Што высока ў неба
Узносілі залачоныя крыльцы
Пакоры зямной.

Іду,
І мне ў патыліцу
Дыхаюць
Усе стагоддзі твае,
Узбуджаныя крокам натоўпу.
Іду
І думаю пра адно:
І мой крок,
Чутны ў гэтым натоўпе,
Пераступіць аднойчы
Мяжу
Астатняга ўдару сэрца.
Мяжу небыцця...
Неўзабаве ў скляпенне тваёй памяці,

Горад,
Ступіць гулкімі крокамі
Стагоддзе,
Самае мітуслівае, тлумнае
І ахвярнае самае.
І дзесь, далёка-далёка,
На вёрстах зямнога дня,
Бліснe астатнім святлом
Нечае сэрца...

Два мільёны
Узбудлівых крокаў
Будуць адбіваць рытмы
Тваёй раніцы,
А залачоныя крыльцы
Крыжа на цэркаўцы
Некаму пададуцца
Язычком звычайнай маланкі,
Тузануўшы які,
Позірк адкрые
Спелыя зорныя грудзі
Галактыкі...



Не хцівам у д'яблу, не богу
Прадайце душу задарма.
Душы падаруйце дарогу,
Трывогу — спазнае сама.

Не будзе закута, жабрача
Гібець на зямным бальшаку.
Прачулена, шчыра заплача,
Пажаўшы сваё на вяку.

А згаснуць яе небасхілы,
Парвецца дыхання струна,—
Не ў лона сырое магілы,
У неба памкнецца яна.



Не пуста ў полі. Крок за крокам
Ступаюць шляхам баразны
Мае дзяды. І мутным вокам
На белы свет глядзяць яны.

Усё, што сеяна-пажата,
Гаворыць сэрцу іх багата...

Вось даланя... уцяўшы ў глебу
Пяць пальцаў вечнасці сівой,
Падносіць ранішняму небу
З малітвай сум гарчысты свой.

І горка доўжыцца мінута:
Са жмені — капае атрута...

Ідуць дзяды мае.
Бароды
Бялеюць крыллем тумаяоў.
Шарэюць дачныя гароды
На схілах даўніх курганоў.

І слабнуць важкія іх крокі,
І шлях звужаецца даўгі,
І лічыць месяц адзінокі
Мае айчынныя даўгі.

# Будучыня

Яна грукаецца
кулачкамі,
маленькая смяшлівая дзяўчынка,
у вокны нашага бытавання,
азяблая на скразняках,
жахнутая папялішчамі,
і гаворыць:
пачуйце, гэта я,
ваша будучыня...
Будзьце інакшымі, людзі,
добрымі будзьце...
Іначай — на раздарожжы
зямным
вы можаце са мной не сустрэцца.
Можаце не ўчуць маіх крокаў,
знесеных ядзерным смерчам...

Але мала хто чуе
стук яе кулачкоў.
Мала ў іх рытме
уздрыгвае сэрцаў...

...Я гляджу ў вочы
маленькай дачкі.
Ці не яна гэта,
сама будучыня,
перада мной?..

* * *

І зноўку ты — спустошанае поле,
Дзе жніўніку яршыстыя кругі.
Бунтуе дух, крыляе горда воля,
Свой рэй вядуць імклівых дзён плугі.

Не ўсё жыццё павыбрана насенне.
Душу спатольным клопатам наструнь:
І вось жаданай хвіляю натхнення
Успыхне думак сонечная рунь.



Грымяць над папялішчамі званы —
Суровы вечнай памяці набат.
Ужо сягоння каляндар зямны
Прамок наскрозь крывёй ахвярных дат.

# Кропля поту

Які цяжар салёнай кроплі поту.
Умыта ёю лёсу баразна.
Па-над зямлёй калоссе і лістоту
Калыша непрыкметная яна.

Напружаннем мазольна-цвёрдых рук
Твой род зямны яна ўзвяла на брук,—
Далей ад першаіснае прыроды.
І ты, прагрэсу гулкага жаўрук,
Пяеш жыццю штоміг натхнёна оды.

Ты услаўляеш свету прыгажосць,
Забыўшыся, які ён, свет твой, ёсць,
Зняверany да прагнага дыхання.
Глянь, выкапана прашчурава косць
Бульдозерам з былiннага кургання.

Няўжо калісь наступяць згубы дні,
Дзе ў росшуку прыроднай чысціні
Сатвораць людзі штучна атмасферу?
Дзе высмакчуць з глыбіняў карані
Праз штучны фільтр
У жыццё астачу-веру?

Паверыць як? Няўжо на цаліку
Нябыт працягне чорную руку
Астатніку з майго зямнога роду?
Змалоўшы лёс на чорную муку,
Ён тхлом замкне навек
Жыццё, прыроду...



Адкуль ты, зум бязроднае душы,
На той зямлі, што дратавалі танкі?
Імклівы час, сумлення не тушы —
Ужо спяваюць рокеры і панкі.

О фанатычна-металёвы спеў,
У сэрцах юных ты знайшоў ухвалу
На той зямлі, дзе голас не сатлеў
Народнай песні ў скрыгаце металу.

Захмараны планеты небасхіл.
І мне чутно, як на стагоддзяў вечы
Над сутнасцю бязмоўнаю магіл
Пяе тугі свінец сусветнай сечы.

Ды ў ім не гасне
Голас чалавечы!



Позні яблык — антонаўка росная —
Буйна ядраным сокам наліты.
Доля роднай зямлі высакосная,
Сочаць сок карані для эліты.

Дзе ні глянеш — па д'яблу ды д'ябліку,
Кабінетныя душы чыноўныя.
Колькі іх! Не упасці і яблыку...
Сок жыцця выціскаюць, саноўныя.

Чым напоіш, зямля пракаветная?
Ці ж пасохла карэнне падточана?
Доля ранняя, доля дасветная
Густа-густа крывёй перамочана.



У парку восень.
Ветрычак лагодны
Збівае з дрэў жаўцяныя лісты.
Ў іх столькі сонца!
Гэта дзень пагодны
Асыпаў свет зіхотай пекнаты.

Яшчэ пяшчотна восеньскую думу
Варушыць агнялістая краса.
Ў ёй столькі сонца!
Ды павевам суму
Цікуе сцюжнай вышы паласа.

Жыццё!
Табе не доўжыцца бясконца,
Аднойчы на астатнім рубяжы,
Як я пра ліст,
Скажы:
Ў ім столькі сонца!
Цяплом душы не выстылай
Скажы!

* * *

Не аддавай іржы
Заступніцкі меч продка.
Адхлыне, вер, ілжы
Пустая верхаводка.

Маўляў, не той цаны,
Не той булатнай сталі...
Не вер такім,
Яны
І ў рукі меч не бралі.

«Бяздумна руш, сячы!» —
Не для такой панукі
Айчынныя мячы
Нам дораць продка рукі.

Бяры, смялей бяры.
Меч — дар тваім прысягам.
І полымя зары
Над ім успыхне сцягам.

* * *

Цярусяцца кіслотныя дажджы,
Спадаюць хмары ношай снегавой.
Пагрозліва, распяццем на крыжы,
Наступіць дзень матэры жывой.

Якой вадой зямны ўмыеш пот?
Сувой хмурын паўзе гусцей, гусцей.
Я ведаю: усіх зямных балот
Вада была за гэты дождж чысцей.

Няхай у бросні млела і гніла,
У торфе хлюпкім чвякала,
Ды ўсё ж —
Святцей, чысцей яна, вада, была
За гэты снег,
За гэты спорны дождж...

Далонь падстаўлю — смутай апячэ.
Няўжо вось так, атрутная, яна
У наступны век з нябёсаў працячэ,
Каб нехта выпіў боль зямны
Да дна?!



Прыспеш, мой дзень!
Змяці ў былое,
Парваўшы гнеўна
На шматы
Усё,
Што сыпле семя злое,
Усё,
Што мроіць:
Згаснеш ты!

# Далонь

Неба хмары чорныя звяло,
Трэці дзень не выгляне блакіт.
Зноў душу трывогай прыгняло:
Жніўны свет імжой наскрозь прашыт.

І няма зыходу ёй. Паўсюд
Мжэе далеч, жухне збажына.
Самая абложная з пакут
Сее слёзы спорныя спаўна.

Поўны колас на вятрах узрос,
Пачарнеў. Халодны дождж пасек.
Праступае ў ім трывожны лёс
Усіх тваіх спадзевак, чалавек.

Колькі раз на жытнішчах зямлі
Ты ўсчынаў упартую сяўбу.
Каласы салёны пот пілі
І вялі з вятрамі варажбу.

Ды пабіта падалі наўсцяж,
Стукаліся зернейкамі ў скронь.
На павеях згорклага жыцця
Падымае іх твая далонь.

* * *

Як заступнікаў багата
У цябе, вяскоўка-хата,
У цябе, радзімы поле,
У цябе, Айчыны воля!

Толькі гоман іх —
Не справа.
Ім гугнець адно
Цікава.

Як шчыруюць
Адмыслова.

Хто пацвердзіць
Справай слова?

* * *

Жыцця аснова — лес і поле,
Сцяжыны ўсцяж — яе ніты.
Рукой руплівай прагне Доля
Кілім свой выткаць залаты.

У лесе — выспела каліна,
У полі — вымахаў палын.
Жывое ўсё ўзысці павінна,
Аздобіць фарбамі кілім.

З падзолу памяці скупога
Зашчодра возьмуць карані
Гаркоту смутку векавога,
Журбу прадоннай глыбіні.

Нальюцца колерам даспела
Святлістых думак каласы
Над тым, што згоркла, адбалела,
Сышло хвілінаю красы.



Мы суддзі тых,
                    хто завяршыў сваё,
Каму пліта магілы цісне грудзі.
Ды точыць сэрца смуты вастрыё:
Мінецца век і нашы прыйдуць суддзі.

Наступнік з зухаватасцю суддзі
Не раз зірне пасля на нашы дзеі.
Мой дзень, ідзі!
Мой век, душу будзі,
Дары глыток крынічнае надзеі.

Душы зарана
                    ў зацішы чакаць
Скупы пагляд суровага прысуду.
Сарвана з болю ценькая чака,—
Я жыць яшчэ пад гэтым небам буду.

Пакуль не раб
                    магільнае трухі,
Я соль жыцця дап'ю з пякучым гневам.
Узважыўшы былых эпох грахі,
Аддам планету рыбам, птушкам, дрэвам.

Павернуць свет
                    да радасці яны
Яшчэ нязнанай будучыні сілай.
Мой родны край,
Мой росны шар зямны,
Не станеш, веру, ядзернай магілай!

Мне ў пошугу вячэрняе зары
Глядзець, куды кіруецца пуціна
Па самым пракаветным пустыры,
Дзе за спіной
І прад вачмі —
Айчына...

* * *

Аплочана крывёй і потам
Твая прысутнасць тут.
Жыві!
Хадзі бясстрашным Дон-Кіхотам,
Шугай агнём жывой крыві.

Сваю душэўную спагаду
Святлом Айчыны запалі.
Табе аддадзена ва ўладу
Сівая спадчына зямлі.

Не будзь прытворліва-харошы,
Жыццё спытаючы праснак,
Не траць свой скарб,
Як траціць грошы
Маной аслеплены юнак.

Гучаць твае жывыя гімны
На берагах крутых Няміг.
Спаўна аплочаны другімі
Твой кожны крок,
Твой кожны міг.

І ты з айчыннаю журбою
Дакладна ведай наперад:
Усё, што страчана табою,
Не верне заўтра твой народ.

* * *

Сягоння,
як дасюль ніколі,
Душа дыхнула спорнай воляй,
Узнёсшы тое з забыцця,
Што адспявала грознай славай
І легла ў спадчыну крывава
Паіць карэнні пачуцця.

Ніколі,
■ сягоння толькі,
Адкрыўшы свету сонца колькі,
Паўстала праўда ■ глыбіні.
І азавецца гнеўным гулам
Усё, што ў памяці паснула,
Што поіць волі карані.

Сягоння,
як яшчэ ніколі,
Ў адказе мы за росхрыст волі,
За дзею кожную сваю.
І праватою абнаўлення
Азорыць памяці праменне
Тваёй наступнасці бруя.

Сягоння,
як ніколі болей,
Пагрозна трубіце над воляй,
Сляпцы, злічыўшы барышы.
Вас крута вынесла пуціна
Адтуль, дзе Сталін і руціна,
Дзе згуба песні і душы!

Сягоння,
ведаю, сягоння
Ў народа чуйнае бяссонне,
Ды не бяспраўе, як было.
Сышло бяспомнасці сутонне.
Надзеі бліскае святло!



*Кут мой забыты, безабаронна*
*Зорыш пагаслых крыніц вачыма.*
*Некаму ты —*
*Ачужэлая зона,*
*Сэрцу майму ты да скону —*
*Радзіма!*

*Сэрца пачула грознае ліха.*
*Ззяе крывёю спуднае ранне.*
*Спяць у магілах прадзеды ціха.*
*Горыч атруты...*
*Холад выгнання...*

*Долю зямную гнеўна караю,—*
*Век мой абраў тут сейбішча болю!*
*Тут, на абсягах роднага краю,*
*Кінуўшы смугу шчодраму полю.*



Тут мой край...
Пад сонцам ярым,
Пад залевай даўніны.
Дзе ні глянь — адны выгары,
Згубы прывіды адны.

На крутой пуціне веку
Попел вогнішча асеў.
Болю, слёз людскіх і здзеку
Самы рупны — тут засеў.

Тут сівых эпох стазвоны
Захлынуліся ў крыві.
Тут згубілі сцяг тэўтоны,
Меч пакінулі крывы.

Ды з зямной былiннай гліны
Пад абложаю нябёс
Ўстала мара з дамавіны,
Пагукала новы лёс,

Засвітала бела, руса,
Пачуцця збудзіла грай.
Горкі вырай беларуса.
Белай мроі горды край.



У лесе, у нетры сырой глыбіні,
Дзе гойдае цемрыва золак,
Тапыршчацца крута ўгару карані
Вятрамі павыдраных ёлак.

Ім выпала тут, на зялёнай зямлі,
Зрабіцца забытай трухою.
— Дачасна і згубна карэнні згнілі,—
Аклікнецца сэрца тугою.

А можа, іх стратны і здрадлівы лёс
Залежны ад ветраў прагрэсу,
Дзе воды аселі і ўсох жаўтапёс
На згубу айчыннаму лесу?

Суровы над імі занесен тапор,
Учуўшы загубы ухвалу.
Сцяжынай маленства іду цераз бор —
І скрозь... барыкады павалу.

У гэтай струхлелай, нямой цішыні,
Не кметнай здаля чалавеку,
Ім, смутна палёгшым, ужо не спыніць
Уздыхі пагрознага веку.

Прайшлася размахам злавечым бяда
І рэхам дакоціцца, вухне.
Упаўшай яліны да болю шкада
І той, што не выстаіць, рухне.



Адно мне вядома
дакладна цяпер:
Без воднага плёсу
ты горкі, аер!
Каб зведаць такое
і сум запаліць,
Мне шмат давялося
балот асушыць.
Пагаслыя зоркі
Няспраўджаных дум.
Ты горкі,
Ты горкі,
Ты горкі,
Як сум...



Усё тваё — і лес, і сенажаць,
І поле, дзе спакон гушкацца жыту,
І выша светланоснага блакіту,
І могілкі, дзе выпадзе ляжаць.



Адзіны конь па вуліцы вясковай
Адцокае сваё ліхой падковай.
Прымружыцца зажуранае вока:
«Як ты, жыццё, ад'ехала далёка!»



Я прыходжу на спатканні з тымі,
Хто не прыйдзе — смерць не дакарай!
Днямі сіратлівымі, пустымі
Спее на кладах іх траўны рай.

Гэта мне да іх, былых, патрэба.
Варушу бясконцыя іх сны,
Каб вышэй глядзела свету неба,
Каб далей віднеў бальшак зямны.



Бяроза пад акном. Казалі — да няшчасця:
Пагрукае крылом самотная пара.
Лісцё яе спадзе на дол сыры дачасна —
На жоўты жвірны груд — на смерць гаспадара.

Здаўна жыло ў сяле таго павер'я слова,
І мо таму бяроз ля вокнаў не расло.
І гэты сумны сказ згадаў я выпадкова:
Бяроза пад акном...
Пустыннае жытло...

Лістотай шапаціць яе жывое лета.
Па сэрцы смутна б'е расстайная пара.
Гукаю я дамоў Вялікага Паэта.
Яна з кладоў заве
Свайго гаспадара.



У лесе дол — ігліцы пацяруха,
Сыпучы жвір і мох ссівелы скрозь.
Далёкі гук спалошна ловіць вуха,
Нібы рыпіць сама зямная вось.

У нетры бору — соснаў каланады,
Цягучы шум у кронах — вышыня!
І пах смалы — агуслы пах прынадны
Жывіцаю напоенага дня.

Нязводным будзь, трасі зялёным чубам
Пад небам ясным, мой жывічны бор!
Ступае век драпежным лесарубам.
Міні красу, занесены тапор!

У спешцы адмахаўшы кіламетры,
Прымаю неруш, як гаючы лек,
Што зубр калісь — у пракаветнай нетры,
Стаю з нязгодай страты —
Чалавек.



Вавёрка скокнула ў галлі,
І птушка абраніла пёрка.
Яны ў суседстве тут жылі:
І берасцянка, і вавёрка.

У лесе траўны дол празяб,
Шугалі крылы, як арэлі.
І пырскі рос з-пад лапак жаб
Ва ўсе бакі, наўсцяж, ляцелі.

І скаланаўся гаманой
Гушчар лясны каля прыгорка.
Арэхі грызла ў ім са мной
Ручная, добрая вавёрка.

Бяроз святлістыя камлі,
Вясны зялёная фіранка!
Як шчыравала ты ў галлі,
Мая пяюха, берасцянка!

...Жаўцянай сцежкі паясок
Уцёк з мурожнага прыгорка.
Дап'юць тугі гаркавы сок
І берасцянка, і вавёрка.



На ўзлессі восенню зіхотнай
Спачыне гордая краса
Зямлі, прасоленай і потнай,
І згасне полымна ў лясах.

І жураўліны вольны раструб
Пяшчоту фарбаў адцяе,
І лес, пабелены бяростай,
Дажджамі неба заліе.

На ўзлессі восенню замглёнай
Між камялёў бяроз і хвой
Снуецца сумна і стамлёна
Жыцця сувой...

# Памяці сяброў дзяцінства

*У. Дашука,*
*А. Палуяна,*
*У. Казака,*
*У. Бачышчы*

Сябры мае сыходзяць па адным,
І сполашней міргае Млечны Шлях.
Іх боль пад небам выстылым зямным
Маркотай абзавецца ў жураўлях.

Аглухне рэха, страціцца ў бары,
Дзе трунна хвоі сталі —
Дзе чыя?
Сябры мае,
Сышоўшыя сябры!
Сыходны крок пакутна чую я.

Якую долю кіне скрутны лёс?
З якой хваіны вычаша труну?
Сябры мае,
Пад шатамі нябёс
На колькі вашы сцежкі працягну?

У памяці — скупыя ліхтары,
Іх ззяблы бляск гайдаецца ўначы.
Я поўны ім. І мне лягчэй, сябры,
Сябе пачуць,
Зямлёю ідучы.

# Памяці Яўгеніі Янішчыц

Трагедый зямных спасціжэнне
На хвалі скразной глухаты.
Як горка і пуста мне, Жэня.
Душа захлынаецца —
Ты!..

Абудзяцца сны снегавыя
У далечы дня агнявой.
Я нёс табе кветкі
Жывыя.
Астатнія кветкі...
Жывой.

Забыта, ніпто не падкажа,
Ляжалі яны, гваздзікі.
Сукенка — прачорная сажа!
І позірк —
цягучы, гняткі.

Згадаў — і душа схаладзела
На ўскраі жахотнай бяды.
З якой ты далечы глядзела
І сумам гукала — куды?

На скрутнай астатняй дарозе
Вініліся душамі мы.
Зардзела ярчэй на марозе,
Крывяней каліна зімы.

# Балота

Яно ацалела
на ўскраі
сатворанай чалавекам пустэчы,
разлілося тванню гнілой
пад небам Палесся.
У чаратах шамотных
шэпчацца [illegible] ветрамі
цёмная язычніцкая памяць
стагоддзяў,
блукаюць
чэрці і ведзьмакі —
спрадвечныя яго насельнікі,
выносячы
крывавыя прыгаршчы журавін,
пільнуючы
птушыныя гнёзды,
у якіх
пад цёплым крылом
нараджаецца
шматгалосая песня
жыцця...
Няўжо і сюды
заўтра прыйдзе пустыня,
пацягне
гойстрыя языкі
тарфяная вея,
пагоніцца ўслед
за астатняю ўспуджанай птушкай,
за астатняю песняй жыцця...

# Памяць сонца

*Раїсе*

Па траве расянай лугавой —
Хваляваннем падагрэты крок.
Мы ішлі на юны голас твой
З-пад вятроў і ранішніх аблок.

Шляхам, перамеценым журбой,
Па забытай і чужой зямлі,—
На зямлю радзімную з табой
Мы здаля вярталіся — ішлі.

І зырчэў у кветках буйных луг,
Ніклі блізка скрухі палыны.
Замыкаўся лёсу першы круг,
Біў па сэрцы гойстры сум зямны.

Бугарочак... Селішча-жытло.
І суседскі заімшэлы плот.
Ты шаптала ўзрушліва: сплыло
Дваццаць год... расстайных дваццаць
год...

Перамок і выстыў каля хат
Сечаны залевамі пясок.
У самоце перагорклых страт
Сцежкай віўся лёсу паясок.

Глянула з абложжа шэрых хмар
Наша сонца — і жывым святлом,
Залатой раскошай юных мар
Пырскнула над колішнім жытлом;

І зірнула светла наўкруга,
Чулі мы: у смужныя палі
Адышла гарчыстая туга
І пакуты думы — адышлі.

Вецер хмары цугам вечным нёс
Волак цёг у хвалях шэрых вод.
І вяртаў нам на хвіліну лёс
Наша сонца праз абложу год.

Памяці праменнай тры глыткі...
Долі расступалася імгла.
У зарэччы крокамі дачкі
Будучыня травамі ішла.

6 Зак. 519



Успаміны, успаміны —
палазня!
Лёт імклівы,
рух няспынны,
ціша дня.
Прывядзіце, успаміны,
мне каня.

Ма́ю збрую залатую
і сядло.
Паскачу я ў вёску тую
ёй на зло.
Буду брагу піць густую —
эх, было!

Лёт імклівы,
рух няспынны.
Будзь, што ёсць!
Холад губ дапіць павінны
іншы хтось...
Успаміны, успаміны...
Весялосць...



Кілім жыцця — тугой аброшаны,
Твой колер сцішаны, зямны.
Ужо рукой падаць да восені,
А як гучыць клавір вясны!

Усё, што сэрцам пераведана
На ўзлёце яснасці зямной,
Што пачуццём натхнёным зведана,
Усё — маё, усё са мной!



Колькі каня канала
Між зямлёй і нябёс,
Быццам загадзя знала,
Які выпадзе лёс

Майму светламу полю,
Майму хмураму лесу.
Чым я сэрца спатолю
На дарозе прагрэсу?

На світанні крыло
Смутна секла нябёсы.
Колькі вод уцякло,
Траў палегла ў пракосы?

Ворны клін пашырэў,
Гляне колерам вохры.
І туман пашарэў
На тарфяніку ўсохлым.

Вунь вятрыстай шугой
Бура лётае хіжа
І сухотнай пургой
Травы росныя ліжа,

Пад самотным крылом
Гасіць водбліск дзянніцы,
Асыпае пяском
Саду цвет і крыніцы.

Лёгкі торф на падлёт,
Свет — абсяжны, шырокі.
З амярцвелых балот
Узыходзяць аблокі.

Чорна рушаць яны
Цугам болю і здзеку,
Шар павіўшы зямны,
Засцяць зрок чалавеку.

# Дзяды

На могілках, дзе жухлая трава,
З журбінай мёртвых сёння памянём.
Сыпучая магільная жарства
Сагрэта чуйнай памяці агнём.

Крывава ўзбухлі гронкі арабін,
І ветру лёт, як пошуг вечных душ.
Ляжаць дзяды, паспеўшы адрабіць,
Пусціўшы [redacted] рук
Жыцця трывучы гуж.

Іх доўгі сон жальбою зварухну,
У век пагроз рукой асцерагу
Над кожным пракаветную сасну,
Зару і птушку, слоту і пургу...

У пустаце пагаслых іхніх дзён
Тут забыцця быльнёг не парасце.
Мне свет зямны на шмат шырэй відзён
У продкаў чалавечнай праваце.

* * *

На ўзлессі тым глынулі ветры
Асенне-жоўтае лісцё.
Завеш душу ў лясныя нетры
Юнацтва водгуллем, жыццё!

Тут колькі траўнага буяння
Чмяліным зумам адгуло,
Тут з першым сумам
Хваляванне
Спякоту вуснаў дапіло.

Тут
    глуха спіць між гонкіх сосен
Сцяжына зведаных пакут,
Брыдуць па ёй туга і восень...
А сэрца бачыць:
Сонца тут!

* * *

Яблыня на селішчы забытым,
Горкія, здзічэлыя плады!
Не вятры, а крыламі нябыту
Тут шугаюць сполашна гады.

Беззваротна, ценька праглядае
Ява дзён з-за чэпкага быльля:
Крочыла жанчына маладая,
Да грудзей хінула немаўля.

Падалося тое...
                    Ападае
Плод астатні з дзікага галля.

Апусцела-ціха ў наваколлі,
Толькі з ветрам шэпчацца быллё.
Не пачуе яблыня ніколі,
Як кугае-плача немаўлё.

Ураслі ў зямлю, аселі сцены,
Вокны — амярцвелыя крыжы.
Яблыня, мой сведка задуменны,
Гаснуць дзён далёкіх міражы...

Крык маленства,
                    зрынуўшы рэнтгены,
Шлях зваротны сэрцу пакажы!

# Афганская балада

*Узводу Васіля Канапелькі
прысвячаецца*

## 1

У горах чужачых не глухнуць баі.
Сцюдзёныя пікі. Унізе — гаі.
І сцежкі змяіста паўзуць на гару,
І хліпае смутнае сонца ўгары.
Штодня раздзьмуваюць заходу зару
Сухотнаю веяй на скалах вятры.

У горах чужачых, пасеяўшы страх,
Смерць хіжа гуляе, абраўшы свой шлях,
Цікуе пражэрна з-за кожнай скалы,
І гойстрыць драпежна крывы ятаган,
І сочыць, як крыллем шугаюць арлы
І падаюць каменем з неба ў туман.

У горах лядзячых чужыннай зямлі
Прыстанак салдаты часовы знайшлі,
Суровы загад быў аддадзены ўраз.
І грудзі замерлі, ўцінаючы грунт.
І гойстрая ціша, як ліха падказ,
Ўзмывае на сэрцы нянавісці бунт.

Суровыя горы маўклівыя днём,
А ноччу палошчуць прыцэльным агнём,
Грымотны, смяротны абрынуўшы шквал
Туды, на нізіны, дзе спяць кішлакі.
Іх пікі — між злом і дабром перавал! —
І помста сцінае салдат кулакі.

## 2

Астылая крушня халодзіць плячо,
І сніцца салдату: ступае дзяўчо,
Бязважка ступае над пікамі скал...
Як белая вішня палескай зямлі...
І вуснаў салодкіх малінавы пал,
І вочы, што зоркамі неба ўзышлі...

Узяўшы дрыготка байца за руку,
Ступае па зорных нябёс цаліку,
Ідзе па вяршынях, што скутай бядой
Глядзяць таямніча хадзе іх услед,
Кіруе туды, дзе зарой маладой
Наліты, адкрыты каханым Сусвет.

## 3

...Уздрыгнулі горы, адрынуўшы сон.
Прыпаўшы к каменням, кіруецца ён
Туды, дзе грымотна зіхаюць агні.
А выбух штосілы гару скалане.
Зрываюцца, коцяцца ўніз камяні
І вухаюць глыбака ў прорвы на дне.

«Павыбіць душманаў!» — яму быў загад,
Палошча высоты свінцу беглы град.
Ды зноўку і зноўку з расшчэлін і нор
Ўпіваюцца ў цемру няскоры клыкі.
І гухае рэха між сціснутых гор,
І доўжыцца бой — невыносна цяжкі!

Халодныя пікі накрыты агнём,
Ад блікаў узрываў яснота што днём.
Байцам затаёна па горах паўзці

Туды, дзе душманскія гнёзды ў скале,
Магчыма, і кулю грудзямі знайсці.
Ды што яна, куля! Нястрашна! Але...

## 4

Бязвусыя хлопцы Айчыны маёй,
Шукаеце што за айчыннай мяжой?
Ці ж ёю аддадзены гэты загад,
Што ў горы чужыя салдатаў прывёў?
Не просіце ў лёсу палёгкі, спагад,
Сталееце сэрцам у гуле баёў.

Аціхнуць не скора баі, і яшчэ
Вам скрушная праўда душу апячэ:
Узятыя пікі — сумлення ніжэй
Таго, хто так гучна сюды вас паслаў,
Каму ўзнагароды былі даражэй
За вашыя лёсы, што — мужнасці сплаў.

І гэта не ваша, салдаты, віна,
Што выпала ў лёсе такая вайна.
Быў імем Айчыны аддадзены загад,
І гэтак адвеку жыццё павяло:
На покліч Айчыны прыходзіць салдат —
Даць небу святло, чалавеку — жытло.

## 5

...Астатнюю ярасцю пружыцца бой.
Уздрыгвае нема скала пад табой...
Так блізка ледзь кметная схова-нара...
Сцярожліва пальцы кранулі чаку.
І выбух гранаты. І стогне гара,
Хаваючы смуглую ў цемру шчаку.

Драпежным ашчэрам уздыбленых гор
Абрынуўся новы агністы віхор,—
Візглівым палётам снарадаў і куль
Ускружаны густа падняты сыпчак.
Не кожнаму сэрцу вярнуцца адтуль,
Дзе голасны роструб штурмовых атак.

Паўзе, да скалы прыпадае салдат.
Ды хіжая куля з варожых засад
Ляцела насустрач, зумліва гула,
Свінцовы ў палёце халодзячы бок,
Гарачую скроню салдата знайшла
І неба хіснула ўваччу — смерці крок!

Халодныя зоркі чужачай зямлі
Вачэй зашклянелых блакіт дапілі.
Ён тварам да неба ляжаў пад скалой —
І ціўкалі кулі, мінаючы скронь...
Грымотнай атакаю доўжыўся бой,
І плёскаў у неба зялёны агонь.

6

Ды раптам з астыглых салдацкіх грудзей,
Як промень нязгасных юначых надзей,
Над безданню чорнаю Сэрца ўзышло,
Асветліла жарам шырокі прастор
І птушкаю стала; учуўшы крыло,
У небе памкнула над пікамі гор.

Шукаў, дзе падзецца з віной перад ім,
Раскатнага бою гарэністы дым,
Вужакамі поўз між гарбатых цяснін,
Ўпіваўся у норы асветленых скал,
А вольная птушка за пару хвілін
Мінула чужыны круты перавал.

Памкнулася птушка да любай зямлі,
Два дужыя крылы яе прыняслі
Да хаты палескай, што весняй парой
На шыбіне студзіць світальны прамень.
Сустрэла матуля пад ярай зарой,
Сказала: «Сынок!..»
І пагас Белы Дзень.

Карміла матуля з гарачай рукі
Астуджаны небам камок трапяткі,
Жыццё заклінала балеснай мальбой,
І засціўся чорна асмужаны свет,
Пракляты нясходнай гаркотай-журбой.
І сыпаўся чорна Жыцця першацвет.



Высокая восень, у кронах бяроз
Шапочаш лісцём залатым.
Памножыўшы смутак на зболены лёс,
Ты ценем праходзіш густым.

Прачыстая восень, з лясной цішыні
Вільготным узмахам крыла
Хаця б на імгненне пяшчоту вярні,
Што вечнай, здалося, была.

Ужо не даехаць, ужо не дайсці —
Здарожаны ўляжацца свет.
Ажухла багата ў халодным лісці
Нязбытных надзей і прыкмет.

І, чуючы вечную песню тваю,
Пад ношай набытых гадоў
Я ў одуме горкім
на ўскраі стаю
Дарог, летуценняў, слядоў.

# Матчына просьба

Раніца назірала
Барвай густой з нябёс.
Месца ты выбірала
Вечнае
Між бяроз.

Ціха лісцём спадала
Голлейка на крыжы.
— Задаўна прыглядала!
Тут мяне палажы...

І, як пакуты вырак,
Голас крануў душу:
— Ўцеха мая — ты вырас!
Блізка мой час... Прашу...

Хмельна буяніць лета.
Чуў, як раса дрыжыць.
Просьба? Пустое гэта!
Маме шчэ жыць ды жыць!

Небу сказаў: не скора
Зрынешся, дзень бяды!
Толькі гукнула гора,
Мама, цябе сюды.

Ноч далічыла зоркі,
Знікла ў чужых палях.
Боль мой няўцешна горкі —
Мамін астатні шлях.

Ў бессанях ім прастую,
Каля труны стаю.
Чую я, мама, чую
Просьбу тваю.

Ёй, як жадала, збыцца
Чорны пасобіў лёс.
Хай табе мякка спіцца
Ў цішы сваіх бяроз.

Згубна ў абшарах сее
Стронцый хмурын сувой.
Горкай слязой расее
Шлях беззваротны твой.

Бачу у сне збалелым,
Самым няўцешным сне:
Мама, ідзеш у белым,
Шэпчаш [redacted] жальбою мне:

— Пуста як кінуць вокам.
Чорна. Наўсцяж — драты.
Ўцеха мая,— далёка
Сёння адгэтуль ты...



Небагата крыніц ля дарог.
Век падсочыў жывую бруя.
Вось і матчынай хаты парог.
Я запозненым госцем стаю.

Не паклічу цябе, не гукну:
Не вяртайся, задзіра-хлапчо.
Гэта я, а не ты, пад труну
Тут натужна падставіў плячо.

Палавелі радзімы жыты,
Чэрвень звонкія росы атрос.
Гэта я, мой хлапчук, а не ты
Тут узважыў прасолены лёс.

Ты ж блукай, не падданы журбе,
Звонам росаў будзі паплавы.
Як зайздрошчу я, неслух, табе:
Чуеш голас матулін жывы!

7 Зак. 519

## 29 жніўня 1986 года

Гэты жнівеньскі ранак
Боль у колы упрог.
Я ступаю на ганак,
На бацькоўскі парог.

Тхло сырэчае ў хаце,
Праіржавіўся дах.
Толькі памяць пра маці.
Траўны груд на кладах.

Толькі думы-наівы
Прыбягуць з цішыні.
Сад ля вокан. Налівы.
Шэпча боль: «Не крані!»

Захліпнецца ў пакуце
Белым светам душа.
Свет у хіжай атруце.
Пі — нібы з гладыша!

А на вуліцы вясковай
Звычны дзень, звычны год.
Хтось ідзе за каровай.
Хтось капае гарод.

Гулкай раніцы крокі,
Звон людской гаманы.
Ды — яблокі, яблокі
З-за рачной стараны.

Ападаюць на хаты
Белакрылым крылом.
Ды — салдаты, салдаты.
Бэтээры — сялом.

Вось ля хаты мы сталі.
Глянеш — вочы баляць.
— Што нам грозіць?—
спыталі.
— Будуць вас высяляць...

— Ета рацыя! Чулі!
Ды такое бяды!
Тры сівыя бабулі.
Тры сухія дзяды.

...Будуць вёсны вітацца
З апусцелым жытлом.
Будуць думкі вяртацца —
Крочыць гэтым сялом.

Будуць смягнуць у полі
На зары каласы.
Ды не зглухнуць ніколі
Тых старых галасы.

Як спакойна, разважна
Мне сказалі тады:
Гэты свет неабсяжны,
А падзецца — куды?!

«Асталося нямнога,
Ляжам тут, дзе усе...»
Палявая дарога
Па каўдобах трасе.

Зона... Могілкі вёскі...
Тры сырыя груды...
Тры журбы адгалоскі...
Тры дарогі бяды...



Усё ў жыцці мінаецца.
Было:
Бясконцаю дарогаю-пуцінай
Мяне ў бяссіллі гора павяло
За матчынай халоднай дамавінай.

Пад воклічы жалобныя удоў
Вяртаўся я на схіле дня
з кладоў.

І быў мой крок стамлёны і цяжкі,
Сляпучымі былі ад гора вочы.
І цэлы свет — асмужаны, сірочы,
І чорныя між жыта васількі.

Вяртаўся я. І чуў: зямля дрыжыць...
Ішоў назад у вёсачку,
каб жыць.

Я зноў іду...
Самотныя клады
Акацыяй пажоўклаю спляліся.
Якія дні паснулі, засталіся
Забытымі пад крыламі бяды?!

І я іду...
Вяртаюся...
Куды?!

* * *

Апоўдні пахне звялай медуніцай,—
Лязо касы кранула травастой.
Шапоча памяць спелаю пшаніцай
Над мамінай магільнаю плітой.

Яе працяг — у лёце крыл птушыных,
У раструбе асмужаных вятроў.
У зарыве даспелае каліны
Бунтуе зноў яе жывая кроў.

У роснасці світанкавага луга
Яе святая рдзеецца сляза.
У скібіне прапочанай, з-пад плуга,
У травах буйнаспелых, з-пад ляза,—

Паўсюль імкне душа яе жывая,
Жыцця стыхіяй вечнаю імкне.
...Гаркавы свет мядункай выспявае,
Прасветлым сумам памяць варухне.



Зачнецца дзень — з тугою пілігрыма —
У сценах новых, неабжытых хат.
Свой гляне кут прасветлымі вачыма,
Гукне назад сілом пакутных страт.

І птахамі ўзгарачаныя душы
Памкнуць у зону, за калючы дрот.
І я, душой збалелаю відушчы,
Зноў блаславўлю вяртання вольны лёт.

Ці можна кінуць поле векавое,
Дзе сеяна і зерне, і сляза?
Ці можна кінуць сонца баравое
І ветру хвалю, з вастрынёй ляза?

І неба, што, праменнае, світала?
Брыдуць, тугой прыкутыя, яны.
Зірнуць на свет, і здасца:
сонца ўстала
Сягоння ўжо з іншкшай старааны...



Куды айчыннымі дарогамі
Брыдуць сівыя хадакі?..
Глядзяць удаль вачамі строгімі,
Свой скарб нясуць у дзве рукі.

Багата іх у Бабчын вернецца
Па бальшаку зямных пакут.
Ля весніц хат пад небам верасня
Душа прывеціць родны кут.

І прасвятлее, і азмрочыцца —
Наскрозь у яблыках сады!
Нялёгка ім, ссівелым, крочыцца
Абсягам ядзернай бяды.

У далі той, дзе памяць выткала
Красы пагаслае кілім,
Прайсці не раз ім, скрушным, выпала
Па сэрцы зболеным маім.

# Бабчын

Вокны сляпыя твае
Зорацъ мне ўслед,
Вочапы жураўлёў
Счакаліся цёплых рук.
Смутна гаворыць з табой
Вецер — гугнявы дзед.
Мёртвую цемру тваю
Чорны цікуе крук.

Важка, маркотна мне
Бачыць: сышло жыццё,
Кінуўшы на ўспамін
Шэрыя сцены жытла.
Кліча жывых, заве
Сцюжных вятроў выццё.
Колькі з выгнання душ
Памяць сюды звяла?!

Мёртвай, пустой зямлёй
Я не адзін іду.
Змучаныя тугой,
Ходзяць вяскоўцы ўсе.
Колькі збалелых душ
Чуе тваю бяду,
Колькі стамлёных воч
Смутак яе нясе!

* * *

Як жа вам маецца,
бабулі-суседкі,
Анюта і Вара?
Сэрца займаецца,
што чыгун на агні,
паркім варам.
У хмурых вачах
пагаслі надзей небасхілы.
Завуць па начах
мужоў ледзяныя магілы.
За век парастрачана
згорклага суму багата.
На могілкі Бабчына
сэрца ступае зацята.
Шлях ваш кароткі
і доўгі, як чорныя ночы.
Там загародкі —
месца абралі аднойчы.
Там, на выгодзе,
род ваш ляжыць-спачывае.
Магіла Валодзі
і поблізу груд Мікалая.
Вечнай бяды
там сіратлівае ранне.
Толькі туды
просіце ў бога вяртання.

* * *

Там, дзе памяць балесна лунае,
Супыніся, у вёснах пастой.
Колькі сэрца прызнае, пазнае
На дарозе выгнання крутой.

Ты — хадок. У раз'ятраным часе
Не астыла душа на вятрах.
Барва неба ўвышы разлілася,
Шчодра дорачы ядзерны страх.

Там, за памяці дальняй вярстою,
Гулам шчасця ўзыходзяць гады.
Раскашуюць красою густою
Над мутнечай уцёкшай вады.

Жыў, аддадзены часу зямному,
Спешна мерыў пад сонцам сваё.
Там, дзе жалі пустую салому,
Дбаў пра новага часу жвіўё.

Там, дзе сэрца сціналі пакуты,
Безнадзейнай тугой не згасаў.
У Чарнобыль ахвярна закуты,
Гэты верш перагорклы пісаў.

Адрасуючы боль чалавеку
І дарозе, парослай лазой,
Адгукнуся з журботнага веку
Белай кроўю і чорнай слязой.



Восень далічыць асін пятакі,
Ветру паведае скрушную думу.
Радасці поле — з левай рукі,
З правай рукі — поле вечнага суму.
Сеялі тут безліч вякоў
Рупныя рукі потную долю.
Песня звінела адна жаўрукоў
Светламу полю і змрочнаму полю.
Колькі ў абсягах зямной даўніны
Сечаў пачулі, крыві паспыталі.
Разам, было, дзірванелі яны,
Горкай травой забыцця зарасталі.
Плужылі іх, выцерпы пот,
Чорныя рукі і светлыя душы.
Неба студзіла голас грымот,
Зыркала сонца вокам відушчым.
Як на сугрэве прэлай раллі
Цегла зялёныя парасткі жыта!
Ды пачарнелі разам палі,
Глянулі ядзернай згубай пабіта.
Неба навісла ў зыбучай імжы
І захліпнулася, чорнае, болем.
Размежавалася дротам мяжы
Сумнае поле з радасці полем.
Так і ляжаць два малыя шматкі,
Скрушныя, як чалавечая доля.
Ходзіць там смерць,
Сноп нясе напраскі
З кожнага поля!

* * *

*На дне гісторыі сівой*
*Багата чый астыне голас.*
*К*
*О*
*Ды зорны крыж КУПАЛА*
*А*
*С*
*Свячэннем век паверне твой.*

*Шляхамі мары агнявой*
*Павыйдзе ў Заўтра*
*наша Сёння.*
*І душы зведаюць бяссонне*
*На дне гісторыі сівой...*



Зямных касмадромаў дасветныя гулы,
Узносіце мрою сівое Зямлі
Над светам аседлым, дзе горкі прытулак
Крывавыя звады ў стагоддзях знайшлі.

Над светам трывогі,
Над светам пакуты
У ззоранай вышы шугае крыло.
І дзень наступае касмічна-раскуты
І новых галактык вітае святло.

Нязнаных планет трапяткія арбіты.
Па небных абсягах імкнуся туды,
Дзе розум крыляе, тугой апавіты,
Збавення шукае ад скрушнай бяды.

З аседлай задухі, з зямное руціны
У водсвеце зыркім сустрэчных камет
Я крокам збавення пракласці павінны
Свой шлях чалавечы ў бясконцы сусвет.

І там, на абсягах касмічнай прасторы,
Пазнаўшы радзімнай планеты святло,
Нятленнае сэрца зямлянаў паўторыць:
«Я колькі аднятым у неба было!»

І мройнай тугою асветляцца далі
Зваротнага шляху — да яблынь і рэк,
Да памяці продкаў, да гневу і жалю,
Да сутнасці зорнай тваёй,
Чалавек!



На ўскраі поля ў валунах мяжа,
Жыцця засеў у потнай араллі.
Брыдзе пад небам восені імжа,
Хінецца патарочай да зямлі.

Падасца ўраз, што цеменню густой
Захлыне шыр — і Вечнасць адбярэ
Шматок святла. І сыдзе чарнатой
Мой белы свет. У цемрыве памрэ.

О, спудны міг! Даўно цікуеш ты
Паглядам зор. Прысутны твой спалох!
Глядзіць пахмура з небнай пустаты
Заход Жыцця — нябыту чорны лёх.

Драпежна болем сэрца праціне
Нямотнай вышы скваплівы пагляд.
Я ведаю: Зямля — мой райскі сад.
І светла так нідзе не будзе мне.

* * *

Мы забываем, забываем
Нас колькі ў вечнасць адышло.
Мы забіваем, забіваем
Радзіннай памяці святло.

Дзе вецер скрутны гнеўна свішча,
Пяском тушуючы блакіт,
На скурганелых гарадзішчах
Ладуем мы мяшчанскі быт.

Так у празмерным захапленні
Жывём, не чуючы віны...
Не бачыць сейбіт: продкаў цені
Ідуць ускраем баразны.

Маўкліва сеючы на полі
Недасказанае, сваё,
Ідуць, і ў клопатнай нядолі
Іх точыць крыўды вастрыё.

За здзек над памяццю іх точыць...
Што родны край душы не міл.
Не згаслі іх жывыя вочы
У вечных схованках магіл.

Іх душы ў душным перагудзе
Наскрозь атручанага дня
Нядрэмна мрояць, як аб цудзе:
Узыдзе шчодра дабрыня!



Мільёны год вандруе цень Зямлі,
Паказваючы воку Млечны Шлях,
Распальваючы зораў вугалі,
Агусла морак водзячы ў палях.

Яму насустрач з вечнасці шырот
Імкнецца лётка сонечны прамень.
Апічэрыўшы зары чырвоны рот,
Агонь Жыцця святлом згрызае цень.

Зямля, крыламі ночы калыхні
Нябачны шлейф касмічнага вітка.
Плывеш куды ў сусветнай глыбіні?
О, як віруе млечная рака!

І я, праз сетку зорнага галля
Ўпіваюся вачмі, душой плыву
Туды, дзе будзеш некалі, Зямля,
Туды, дзе зорным рэхам ажыву...



Абложнага неба ірваны шацёр,
Дзе хмарын ашмоцце астыла ўгары,
Дзе ноччу праглядвае іскрамі зор
Агністая ява да самай зары.

Пад ёй на скрыжалях зямных пуцявін
Аднойчы замётна
Твой згубіцца след.
І стыглай самотай сырых дамавін
Замкнецца пад небам у жудасці свет.

Разгалая выша сцюдзёна глыне
Астатняга лета жывую траву,
Суровым прысудам няўмольна зірне
На груд надмагільны —
Азорыць жарству.



Апета ўсё. Ды толькі — не адпета.
І я, жыццё, твайму буянню рад,
Забыўшыся:
зыбаецца планета
Ужо над прорвай беззваротных страт.

Імкнуцца ў высі думка і ракета...
Апета ўсё.
Ды толькі — не адпета.



Жывеш часова на зямлі.
І найвялікшая пакута,
Што лічыць долі мазалі
Душа зняверана, прыкута.

Куды ні глянь, паўсюд адно:
Пракісла ў соладзе эліта,
Уцехі хмельнае віно
У сэрцаў келіхі наліта.

Якая скрушная цана
Імгнення кожнага, якая!
Магільна дыша даўніна,
Кроў чалавечую каўтае...

Ды не падданае гульбе
Устане некалі над светам
Усё, што высніла цябе,
Душа, святлыні запаветам...



Шугае лета маладое
І шчодра поіць карані.
Святло маланак агнявое
Грымотна крэсліць ночы, дні.

Абсяг нябёс — у зорным цвеце.
Душа, шукаючы прыкмет,
Ты азіраешся у свеце:
Які даў плод твой буйны цвет?

У ім — тугі гарчыстай трохі
І водбліск зорнай глыбіні,
Адзіны грам тае эпохі,
Што згубна поіць карані.

Не кожнаму пад недародам,
Дзе сівер дзьме на першацвет,
Адкрасаваць, наліцца плодам
І азарыць сабою свет...



Зоркі жнівеньскага неба,
Трапяткія светлякі,
Над зямлёй начною нема
Працінаеце вякі.

І стагоддзяў роздых горкі,
Сведкі, ловіце здаля.
Вам, тугой пагаслай зоркі,
Усміхаецца Зямля.

# Рух

На гэту сустрэчу з табой
Усё
Паспяшала пуцінай
Бясконцага часу,—
Схаваўшы на ўзбоччах яе
Чэзлыя косці,
Выслізнуўшы са старэчае скуры.

* * *

Над галавой —
Мільярды гадоў светлавых
Вышыні.
Пад нагамі —
Часаў зямных напластаванні.
Кропляй жывой
Стаю, каўтаючы дні.
Сэрца сцінаецца ў прадчуванні:
Братоў па розуму ў небе знайду,
Узлёгшы на веку дужыя крылы!
Ці зорных думак сваіх чараду,
Сышоўшы за прашчурам,
Пакладу
На дно сырэчай магілы?

# Аднойчы

Аднойчы пачнецца дзень,
Поўны зіхоты вачэй,
Узбудлівых udaраў сэрца,
Пяшчоты цалункаў
І немаўляці пятой
Ступіць на травы...
Аднойчы,
калі развеецца сум,
Выстыне першапутак трагедый,
Абрынецца здранцвенне рук
І душы,—
Успыхне дзень.
Да яго сонца
Павернуцца тварамі
Сланечнікі на градах,
Смяшлівае дзіцячае ластаўчынне
І чэзлыя старыя маршчыны
Бабулі,
Якой скіне дзень гэты
Залачонае пёрка
Астатняга промня...

* * *

Усё даўжэе памяці бальшак,
І дні страсае век, як дрэва лісце.
І млечных зор ярчэй пытальны знак:
Адкуль і хто?
Дзе страцішся калісьці?

Зямля!
Дапіўшы волкае святло
Бруі жывой,
Мне стаць травой і ветрам.
І недзе за расстайным кіламетрам
Стыхіяй дыхаць
І шаптаць:
Было...
Усё было...
Няхай грыміць нанова
Твой дзень жыцця
Абуджана, вяснова...



Тут даўні сум, як пошуг цішыні
Лясоў тваіх, азёрнае зямлі.
Тут казкі чалавечай дабрыні,
Пачатыя адным: «Жылі-былі...»

Я крочу ў нетрах памяці зямной
Для кожнага сустрэчнага чужы.
Вякі прымоўклі скута прада мной,
Варушацца прародзічаў крыжы.

І там, дзе сцюжна ў выдмах даўніх год,
Пачую, яблык шпокнуўся ў траву.
Паміж усіх жыццёвых звад, нягод
Пускае продак лука цеціву.

І ў міг, заспеты памяццю былой,
Наструню крок, пачую,
Як яна
Пяе ў палёце быстраю стралой
І душу рассякае, даўніна!



Час прыходу каметы Галея,
Боль мой зыбее,
Смутак залее.
Планету маю, зацугляўшы хвастом,
Не панясі,
Вогненны гром!
Не пакарай «небным судом»
Спуджаны род мой,
Астуджаны дом,
Астуджаны горкай доляй зямной,
Асмужаны
Рук чалавечых віной.

* * *

Спадманны міг аседласці зямной,
Ты дорыш мне магчымасці свае:
Адна пуціна легла за спіной,
Другая ў вышу квола след віе.

Адною —
шыр зямную перасек,
Злучыўшы акіяны і хрыбты.
Другой пуцінай —
горды чалавек —
Свідрую глыб касмічнай зіхаты.

Якім ні быў бы ўпартым зорны рэй,
Ён не багата кінуў перамог
Пад ногі мне.
Не адчыніць дзвярэй
Вышынных,
Тых, дзе дрэмле вечны бог!

Мне ці ступіць на хуткасцях ракет
На той прастор,
куды ўзлятае зрок?
Пакінуць мне няходжаным сусвет,
Да болю мройна чуўшы ў далях крок.

За што ж тады змаганне я вяду
Мячамі агнямётнымі арбіт
З жадобаю:
узяць за бараду
Самога бога, зрынуўшы нябыт?

І на Зямлі зялёным астраўку,
Дзе шчэрыцца нябыту грозна цiш,
Узношу я адчайную руку
З адной мальбой у зьзораную выш:
О, неба!..

Там пуцінаю быцця
Матэрыя вядзе павечны рух.
Там новае, цікаўнае дзіця
Зачата ёй між зорных завірух...



Так, гэта мы — няўжо астатні высеў
Вякоў сівых? Замглёны наш пагляд.
Ахвярны свет на долю нашу выпаў
З пазнакамі драпежна-хіжых трат.

Ужо, бы ў лузе сена, перапрэла
Нябёсаў выша ў хмарыстай смузе.
Аблогу дождж пакратае нясмела.
Што горкне ў гэтай ракавой слязе?

Ён прыйдзе, дзень маўклівага звароту
Да нетры ззяблай, свежай араллі.
Панішчыўшы драпежнасцю прыроду,
Мы ў гэты дзень успомнім аб зямлі.

За хмарнай паласою небасхілу,
Дзе смутна абарвуцца бальшакі,
Спазнаем мы спаўна зямную сілу,
Магільным сном асмужыўшы вякі.

І ў гэты сон, прымоўклым назаўсёды,
Аброніць непадкупная Зямля:
«Ну вось... і сталі часткаю прыроды,
Адно шкада, што сталі ёй пасля...»

І здрыгануцца ў одуме курганы,
І абзавуцца шыры ўсёй зямлі
Тугою тых, хто вечнасцю забраны,
Пакутай тых, што тут былі, жылі.



Начной глыбіні праясніцца дно,
Зорнае марыва хлыне.
Шырока сягоння ў сусвеце відно,
І чуе душа, што сусвет — не пустыня,

Насустрач пагляду агніста плыве
Вячысты, раздольны, шырокі.
Іду лугавінай па роснай траве,
І ў ім адзываюцца крокі.

І помню — рукою замнога бяром,
І свет — хімадышкаю хворы.
Інакшы над ім захліпаецца гром,
Палошыць, як продка ў пячоры.

Я новага лёсу шукаю прыкмет
На зрэзе астатняй пагрозы.
І думаю горка пра свет і сусвет
У явы зямной на парозе.

Якім жа ты станешся, заўтрашні лёс? —
Я мушу пазнаць тое сёння.

Мяне прычакае раскутасць нябёс
Ці дзеі трагічнай прадонне?..



Адліжная, вятрыстая пара,
Налітая вадою каляіна.
Ірдзеецца над вёсачкай зара,
Як сіверам працятая каліна.

Стары вятрак — зламанае крыло —
Завідна сочыць вокам жабрака,
Як, чвякаючы, крочаць у сяло
Хлапец з дзяўчынай —
У рудэ рука...

Знаёмы шлях... І свету шырыня...
Зямлі,
          нябёс
                    і сэрцаў
Чысціня...



Не абмінеш —
　　　　　　няма другіх сцяжын,
Шчэ вуснамі знянацку дакранешся.
Яна, любоў, не слодычны ўспамін.
Ёй жывучы,
　　　　　　не раз пасля жахнешся
Пустому дню,
　　　　　　успомніўшы, калі
Ты крыж узнёс, аддаў любоў быломy.
Ззалеўшы сэрцам на скупой зямлі,
Не колас жнеш, а чэзлую салому.



Валун халодны — выстыла душа,
Увабраўшы ў поры памяць тых эпох,
Што рассявалі з небнага каўша
Святла красанне, мораку спалох.

Ён ад ляжанкі ўтомнае аглух,
З якой пары зямныя лічыць дні?
Ды чую ўсё ж: дыханне завірух
Застыла ў ім касмічнай шырыні.

Кладу на холад цёплую руку.
Далонь сцюдзёнай вечнасцю пяку...

* * *

Былое не вяртаецца.
Здаля
Гукаюць нас у вырай вечны зоры.
У іх харал імкне твая Зямля
Каторы дзень і век ужо каторы.

І ты на ёй — падлётак, і ўсяго.
Цябе ўздымаюць за аблокі крылы
З жадобаю памкнення аднаго:
Адкрыць планет далёкіх небасхілы.

Я ведаю, надыдзе час, калі
Крыло адорыць дужасцю палёту.
Вандроўнік Неба, пасланец Зямлі,
Развееш ты прыкутасці самоту!

І там, дзе зор высокае святло
У сцюжнай недасяжнасці залее,—
Бязважкім стане ўраз зямное зло
І розум самагубца прасвятлее.

* * *

Шырэеш у сусвеце, баразна,
Паднятая ракеты пругкім гулам.
Усё ж не зглухла ў свеце, не заснула
Прыкутасці бяскрылай гамана.

Любоў, яна адна — высокай мерай
Усіх маіх памкненняў і шляхоў.
Парваўшы ўміг ланцуг зямных акоў,
Пяе душа, раскутая Венерай.

Жывая прага зорнай глыбіні!
Узнесеная светлаю хвілінай
Крыляе ў высях лётнаю пуцінай
Мая душа.
Душу абарані!

Калі пагасне ў ёй сузор'яў цвет,
Халодным станеш,
Выстынеш, Сусвет.

* * *

Снег — падталая макрэча,
Звон вясновы ручая.
На дарозе ты і вечар.
Тоне ў лужах каляя.
Ты ідзеш, яшчэ малеча,
І яшчэ не знаю я —
Ты адна, а свет — далеча,
І ў далечы ты —
Чыя?!

* * *

Пацерка рубінавай каліны
Пад хмарай-хусткай восені —
Зіхота...
Гукае клін адлётны жураўліны
Астатняе палескае балота.

Умые дождж накрапам вечаровым
Самотаю павітыя абшары,
Дзе волкім, прэлым пахам чабаровым
Астынуць лета страчаныя чары.

Калышацца прамоклая асока,
Аб леце шэпча цёплыя ўспаміны.
Плыве жыццё
раздольна і высока
Над пацеркай рубінавай каліны.



За сваё зямное існаванне
Прашчуры лілі ахвярна кроў.
Падаў тур, спяшалі з палявання
Са здабычай на агонь кастроў.

Мы ж гатовы ўміг абрынуць зоры
Смертаноснай хіжасцю ракет
І дрыжым, як продкі ля пячоры,
Нас не менш палошыць грозны свет.



Жаўцяны жвір. І верасу набег,
Угрэтая, лагодная сінеча...
Халодны жвір. І першы мокры снег.
Зямлі і неба згодлівае веча.

Махаючы астуджаным крылом,
Лунае дух
Між сцюжай і цяплом...



Пакуль яшчэ сонцам налітае неба тваё,
Убачыць красу і пачуць яе голас імкніся.
А ляжа цямрэча,
ударыць жуды вастрыё,—
Прачулаю песняй у сэрцы вярніся!

І хтосьці пачуе прысутнасць жывую тваю,
І светлай слязой затуманіцца вока.
Дыханнем падоўжыць жыцця трапяткую
бруя,
І сэрцу не будзе на гэтай зямлі
адзінока.

* * *

Сырадоем пахне хутарок,
Бэзу адзічэлыя кусты.
Вечнасці на сцежцы зябкі крок,
Выстыў Млечны Шлях да зіхаты.
Вілii смуглявая бруя
У краплінах промненосных зор...
Толькі тут, наноў, душа твая
Адшукала светлавы прастор...

* * *

Шуганула полымя —
Зара!
Неба шыр у водсвеце дзянніцы.
Шмат вякоў з паклажаю Дабра
Едуць к нам ад бога
Калясніцы.

На узвысях крутабокіх стром
Не знайсці дрымотнага спачыну
Вазаку,
Які гудзе, як гром,
Шлях зямны змятаючы ў быліну.

# Мы — ёсць!

Мы — ёсць, падманутыя, адпрэчаныя,
зняможаныя ў паядынку
з Жыццём,
абвугленыя душой, целам,
атручаныя кіслотным дажджом,
Чарнобылем
распятыя
на Крыжы Будучыні...

Мы — ёсць, адзінкі і народы,
слёзы і пот,
скрыгат зубоў і смех шалёны,—
і ўсё, што ёсць мы,
падае ў цёмную прорвіну Часу,
зжыраецца ім
да хрусту нашых касцей,
да поўнае немаТы,
да таго мігу,
калі,
павечна маўклівыя,
мы месца пад Сонцам саступім...

І пакуль мы ёсць,
крыві — адаграваць
кубатуру Сусвету,
вачам — працінаць
небныя вышы,
сэрцу — скаланаць
памяць...

* * *

Зямля,
трымаючы нас
на скарынцы грунту,
жагнаючы штормам-ударам,
перуном,
бліскавіцай,
палошачы землятрусам,
гаворыць:
часовае ваша быццё!

А галаву
ускружваюць колеры і пахі
звабнасцю вечнага існавання:
ты
тут
назаўсёды!
Табе
аднаму
вечна паслужныя
сілы Жыцця!
І гэта ўсё —
Вечнасць.

І расступіцца яна, зямля,
пад табой.
А наступнік,
ускружаны яе небам,
нават не скмеціць,
як ты знікаеш
у расшчэпіне Часу.

Ён, адзінотнік на шляху,
абпоены зманлівай верай
у сваю Вечнасць,
ступіць шчэ некалькі крокаў
наперад,
да новай расшчэпіны...



Каля высокіх зорак,
прыручаныя цеплынёй,
кругляюць планеты,
дзе —
вада і трава,
дрэвы і птушкі,
галасы,
слёзы,
смех...

Яны,
аднятыя бясконцасцю Шляху,
судакранаюцца толькі
са здагадкай маёй
і, ёй квола асветленыя,
гушкаюцца ў чорных глыбінях
Сусвету.

Колькі мільёнаў гадоў
Зямля
раскручвае
спружыну Часу свайго,
змяняючы дні і ночы,
вёсны, леты, восені, зімы.
Ужо і мне,
часоваму яе пасяленцу,
пачынае здавацца:
дзесьці далёка
ёсць іншы сонечны свет
з паглядам матуліных воч,

з яе жывым голасам,
з сутуласцю бацькавых плеч,
увішнасцю яго рук,
з кавенькай дзеда Яўхіма
і сукастым кіёчкам бабулі Антосі,
з разгалоссем Жывога Бабчына...
Ды адно ведама:
не дайсці мне,
жывому,
у нікуды,
як і да іх,
вышніх зорак...

Ад зорак
снуецца ценькая нітка Надзеі,
кволы прамень
запальвае сэрца
жадобай сустрэчы.

Сырое сутонне зямлі
расступаецца галасамі
маіх продкаў
і, ужо не такое страшкое,
зычліва падказвае:
табе неўзабаве
выпадзе разгушкацца
на ценькай нітцы Надзеі,
разбіць сэрцам
халоднае шкло вышыні,
прыйсці на агеньчыкі зорак,
як прыходзіць вандроўнік уночы
на позняе святло вокнаў...



Я гаварыў. А возера маўчала,
Распаленае зорыстым сяйвом,
Душу маю трымала, прыручала,
Адкрыўшы глыб ёй пад начы брывом.

І голас быў аддадзены Сусвету —
Парыўны напамінак аб Зямлі.
Хто сатварыў яе, маю планету?
Хто насяліў няведама калі?



Мы ўсе пад небам даўжнікі
Прад часам тым, што зглух у скрусе.
Ці гэткіх снілі нас вякі
На гарадзішчах Беларусі?

Куды імкнуліся яны
Сусвету чорнага шырэчай?
Панёсшы голас даўніны,
Якою дыхалі сустрэчай?

І як пачутымі былі
У завірух сусветным гуле,
Калі крыламі ад Зямлі
Наступнасць, нас, не адмахнулі?

Усё пакінулі, што ёсць —
Працяг —
З'явіцеся, жывіце!
З нас кожны тут часовы госць,—
З журбой пад зорамі плывіце.

І ў таямнічай варажбе,
Прайшоўшы млечнай даўжынёю,
Спазнайце, вызнайце сябе,
Сусвет сагрэйце дабрынёю.



А восень мякка паплавамі
Ішла — стракатая хусціна.
Трубіла позна журавамі
Жыцця заходная пуціна.

Усё — паднеб'ем перамыта —
Ляжала шэранню скразною.
Замкнуўся свет, глядзеў знябыта
Гадзінай чорнаю начною.

Нібыта ў дзеі незваротнай,
Пагасла ўраз святло зямное,
Сплыло часінаю маркотнай,
Як сплыў каўчэг старэчы Ноя.

Глухое восені сутонне,
Дзе ты ў расплёсканай цямрэчы
Брыдзеш, прымаючы бяссонне,
Каб выжыў голас чалавечы.

Яму тугой наканавана
Такое даўкае маўчанне,
І сонца круг — з крывёю рана —
На ўсходзе памяці прагляне.

І ты, знясілены журбою,
Нібы вярнуўшыся з далечы,
Убачыш неба над сабою
І крок пачуеш чалавечы.



Агонь языката ўзлятае да рук,
Мы грэем далоні.
Касцёр вечаровы.
А побач, над жытам, спявае жаўрук,
Ён [redacted] нашай вясною
Вядзе перазовы.

У водсвеце полымя любай шчака.
І я, затаіўшы ўтрапёна дыханне,
Убачыў,
як наша ступае каханне
Пад яснасцю небнаю —
Сын і дачка!



Ты выйшла з ракі,
і сонца
упала, жоўтае,
на голыя твае плечы.
А там, угары,
за воблакам,
гусне-хістаецца
Вечнасць.
І я спалохана бачу,
як шырыцца, набухае
яе цемра
ды бяссільная
меркне
перад табой.
Толькі ты і сонца.
Двое вас.
І скрозь —
ваша святло.

* * *

Вярніце ў свет трывожны і забыцця
Слязу — няўтольнай радасці святліну.
Бяжыць па росным поплаве дзіця!
Зямля, прымі з-пад ног дзіцячых міну!

Далёка як ад колішняй вайны
Яна, пачвара чорная, залегла.
Каб вечным быў пакуты боль скразны,
Каб горычы сляза ізноў набегла.

# У Быстрыцкім касцёле

Дзяўчына-красуня, з малітваю богу
Стаіш на каленях пад зводам.
А сэрца — каўтае глыткамі трывогу,
А сэрца — грыміць крыгаходам.

Ўсяго на імгненне зліліся пагляды
У храме святошным аднойчы.
Тваёй мне любові, тваёй мне спагады —
Прашу у нябеснага ойчы.

Тваім харaством нечакана заспеты,
Прыціхла стаю за спіною.
Блукаюць над Віліяй спелыя леты,
Шумяць у палях збажыною.

Мы выйдзем ўдваіх са святошнага храма,
Падданыя іншае веры.
І рыпне цягуча касцёльная брама,
Адкрыюцца раю нам дзверы.



Мой светлы сон:
                    я зноўку ў далі той,
Дзе ты красуеш юнай пекнатой,
Азораны пяшчотаю начы,
Тваю шчаку трымаю на плячы,
Ляцім ўдваіх між зорак і камет:
Дыханнем нашым поўніцца сусвет.

Мой чорны сон:
                    завеі загулі...
Старэчая, ступаеш па зямлі,
Абпёршыся на кій з астатніх сіл,
Па могілках ідзеш паміж магіл,
Глытаючы пакуты даўкі ком,
Стаіш маўклівa над маім грудком
І просіш дагарэлымі вачмі
Адно:
Хутчэй мяне сюды вазьмі!

Мой светлы сон,
                    табе не пазабыцца!
Мой чорны сон...
                    Яму аднойчы збыцца...



Перакат — рачная водмель,
Хвалі лёгкай ускалых.
Цішыня такая — возьмеш
Цэлы свет душой на слых.

У лугах гусцее вечар,
Бляск зары на гладзі згас.
Праз туман выводзіць Вечнасць
Статкі зорак на папас.

Страпянуўся ліст кляновы,
Казытнуў, угрэты, скронь.
Я чакаў: зардзее новы,
Небам твораны, агонь,

Грайна, весела, шырока
Разальецца, паплыве,
Як абсяг акіне вока,—
Блісне ў росах на траве.

Светла зрынуўшы утому,
Ступіць месяц, як хадок.
Дню наступнаму зямному
Кіне ценькі павадок.



Не адыходзь. Ты — юная, мая.
Той горкі міг спалохліва прымрою,
Калі вачэй святлістая бруя
Спахмурыцца расстайнаю парою.

Яшчэ няблізка той няўмольны час.
Ды ўскалыхне душу пякучым болем
З уздыхам,
каб імгненна не пагас
Твой светлы лік,
нібы блакіт над полем.



Горад свеціцца агнямі —
Граюць жоўтыя кварталы.
Ноч бязмежная над намі,
Пад нагамі — ліст апалы.

Мы спаткаліся... І крокі
Загучалі акрылёна.
Зорны свет наш — храм высокі.
Ты — душы маёй ікона.

На грудзях застылі косы —
Легла кожная змяёю.
О, прачыстыя нябёсы!
Будзь, імгненная, маёю!

Вокны бліскаюць, як кветкі,
Адбівае бляск іх завадзь.
У жаўтацвеце цёплым гэткім
Выспявае лёсаў завязь.

Наш няпомны і бяздомны
Лёс падміргвае здзіўлёна.
Пацалунак бессаромны.
Ты — душы маёй ікона.

# Адзінота

Нецалаваная ўначы,
Я выйду раніцы на стрэчу.
Гарачым сэрцам запярэчу:
Самота чорная — маўчы!

Ускружан веяй цэлы свет.
Дрыготка стыне, смягне цела.
Мільгнула ноч мая, згарэла
Адна зырчэйшая з камет.

Ці ўсім хапае хараства?
Маіх вачэй пагаслі плёсы!
Як бела, вейліва нябёсы
Майго кранулíся брыва.

Ты, адзінота, ідучы
За мною лёсавай пуцінай,
Не затраві мяне гарчынай,
Пагаснуць дай маёй начы.

Заняўся дзень не для яе.
Хоць мой пагляд чарней ад ночы.
Я знаю, сцішыцца аднойчы
Мой боль і дзень яго дап'е.

Развее смутак небасхіл,
Дзе сонца змеркла, згасла ўчора,—
Душы прасветліцца прастора:
Прачнецца кветка
Дзівасіл.



Скажыце, у якіх вірах
Жыве затоена, глыбока
Заўчаснай смерці вечны страх?
І кожны вір зірнуў, як вока.

Скажыце, па якіх шляхах
Блукае смутак на дасвецці
З астатняй сілай у руках?
І кожны шлях дыхнуў, як вецер.

Скажыце, ў полымі якім
Згарыць зямля пакутна-горка,
Асеўшы попелам цяжкім?
І ён, агонь, зірнуў, як зорка...



Успеніцца мора, і хваляй крутой
Павітыя скалы глухой нематой
Ударыць. Стыхія не мае граніц!
І выбліснуць стрэлы тугіх бліскавіц,
І ўжо анічога вакол не відно:
І мора і неба
Гудуць,
Як адно...

Ды ўсё-такі ёсць паміж іх мацярык,
Дзе чайкі празяблай сцінаецца ўскрык,
Дзе чэпкае дрэва, змагаючы зло,
Карэннем натужна у грунт урасло,
Дзе б'ецца з адчаем стыхіі зямной
Агеньчык далёкі ў прасторы начной.

Там ціха калыску люляе рука,
І чырванню рдзее жанчыны шчака,
І ловіць стыхію напружаны слых,
Пачуццяў і думак трывожны ўскалых.
І тых ускалыхаў уладней няма,
І стыне ў іх рытме стыхія сама...



Беглі коні. Белыя грывы
Вецер часаў.
Капытоў цок імклівы
Іскры красаў.

Дзень — пагодны, юрлівы.
Скакуны.
Бела-белыя грывы...
Дзе ж яны?!

Іх загналі да храпу
На вятрах седакі.
І размеціны шляху —
У чатыры бакі.

Адыгрымелі падковы.
Стыгне рэха ў бары.
Ім стаенныя сховы —
Дол сыры.



Багата ў лёсе адбылося.
Гады узяць сваё змаглі.
Удзвюх яны — Жанчына й Восень —
Ідуць у слотах па зямлі.

Адна імжыстай памарокай
Да поля неба прыхіне.
На свет наш белы мутным вокам
З абсягаў вечнасці зірне.

Другая — сцішана і горда
Па зжухлай сцежкі паяску
Ідзе зажурана ды цвёрда,
Трымае долю за руку.

Ліст ападзе астатні мокры
На гэты шлях, на гэты рух.
І будзе сум: зацяты, моцны
У галашэнні завірух.



Восень — смуглая плачка,
Кволы водбліск зары.
Як адчайна дзівачка
Распаліла кастры.

Адпугаць — і забыцца,
Легчы чэзлым лаўжом,
У туманах умыцца
Золкім дробным дажджом.

Гэтак чырвані шчокаў
Дакрануцца гады.
Гляне хлёстка, высока
Шал вачэй маладых.

І з адышкай цяжкою
Ступіш вулкай сяла.
Ты якою, якою
Там, у вёснах, была?!

* * *

Калі да жанчыны ідзе адзінота,
Стамляе жанчыну журба і самота,
Ёй сонечны дзень аніколькі не мілы.
І вянуць, як ружы, сардэчныя сілы.

Калі да жанчыны прыходзіць пяшчота,
Ёй хочацца клікаць свайго Дон-Кіхота,
І сэрца жанчыны шчасліва спявае,
Журба адступае і гіне лянота,
І промень світальны ў вачах адлівае —
Вялікае сонца, таемная цнота!

Калі да жанчыны прыходзіць каханы,
Нязгасна, няўтольна шчымяць яе раны.
Вяртаецца тое, што змерана лёсам,
Душа яе птушкай імкнецца к нябёсам.
І ў гэтае высі, і з гэтай ясноты
Крыло ападае зямной адзіноты.
І шэпчуцца самыя ўцешныя словы,
І дзень занімаецца — светлы і новы.

Калі да жанчыны вяртаюцца дзеці,
Сябе яна чуе у сіле і ў цвеце.
Гады забывае, душой маладзее.
І поўняцца вочы пагожым блакітам.
І светла, бы ўнучка Алёнушка жытам,
Услед за жанчынай ступае надзея.

# Да спрэчкі аб музыцы

Мы ўсе ідзём да Баха.

Спакваля.

Ды многія, прыстаўшы ад хады,
Яго няўцямна слухаюць тады,
Калі прымае родная зямля.

* * *

Чорны воран, грозны воран,
Што ж ты кружыш нада мной?
Для пяшчоты свет сатворан,
Не для цемені скразной.

Пачуццём маім азоран,
Не замкнецца на крыжы.
Чорны воран, грозны воран,
Над душою не кружы.

* * *

Аголеным нервам — бязлістае дрэва.
А лісце наўкруг,
як астатняя повязь
З усім,
што адпела начная залева,
З усім,
што карэнні глыбокія пояць.



Адгаласіла вея, грывы
Усцяж сумётамі ляглі.
Настрой узбуджаны, ігрывы
Пагас у суцемку зямлі.

Яшчэ адна зямная дзея:
Б'ючыся холадам з цяплом,
Адгаласіла злосна вея.
І гнеў зімы
Пайшоў на злом.

# Позняе сонца

1

Восенню хмурай у небнай абложы
Выгляне лапік блакітны і гожы,
Хмары як быццам у ласкавай згодзе
Так парашылі: расплыцца краямі.
І страпянецца зіхота ў прыродзе —
Позняе сонца стаіць перад вамі!

Гэтак і схлыне ў чарнечы імгнення.
Рыме душа дар нябёс неацэнны
І не патушыць, як чорныя хмары,
Ўчуўшы шуготкія крылы святлыні.
Голасам самай таемнае мары
Светлячы, пройдзе зямлі далячыні.

Тое, што ў лёсе чорнаю скрутай
Змучыла, гасне прад хвіляй пачутай.
Сонцам асвеціцца доля зямная,
Выліта чыста, да самага донца,
Тут, дзе ў нябёсах пахмурых пазнае
Сэрца асенняе, позняе сонца.

2

Гэтак і старасць — сцяжэлая ў руху,
Кіне, бывае, скрозь горкую скруху
Водсвет вачэй таямнічы, блакітны.
Свежасцю яснай усцешліва скажа,
Ўзлётам рукі непрадбачана спрытным:
Ты не спяшаешся, восені сажа!

I на зямным незваротлівым шляху
Выстынуць ценькія водбліскі страху,
Сэрцам вітаючы промень заходу.
Ліцца яму нескарона, бясконца,
Поўнячы яснасцю дужай прыроду.
Позняе сонца... Астатняе сонца...

# Маці і сын

*Паўлу*

У сцены пустыя
прыходзяць сны —
Чорныя здані...
Сухмарак памяці:
Хлопчык малы на пожнях вайны,
Сонца ўзыходзіць, дзень той палячы...
Мёртвыя сцены і морак скразны.

З чорнаю доляй адзін на адзін
У матчынай хаце пакутуе сын.

Шорах між ночы... То з вечных дарог
Маці вяртаецца на парог,
Крочыць па зорыстым бальшаку,
Ясна світаннем здаля ідзе.
Быццам маломў, яму руку
На галаву цёпла кладзе.

«Вось і дайшла я... Важкі мой шлях.
Па камянях. Па здзічэлых палях.
Пот мой гарачы ногі мне пёк.
Долі туман засціў мой зрок.
Толькі дайшла я,—
І вочы гарэць,—
Многа б панесці, з сабою забраць».

Маці ўстае.
І ступае яна
На агарод.
Да валуна.

«Вось ён, той скарб...
Акамянеў
Слёз маіх цяжар, смутак і гнеў.
Чорна гібее з даўняй пары,
Мыюць дажджы, студзяць вятры.
Камень халодны...
Ведае Бог —
Важка на сэрца сёння мне лёг.
Колькі я слёз па-над ім праліла!
Зрушыць, жывая, яго не змагла.
Спраў мне хапала — сеяць, араць...
Сынку, прыйшла я скарб свой забраць.
Бачыш, улёгся як на мяжы!
Ўскінуць на плечы дапамажы.
Я не хачу, каб на сцежцы тваёй
Скрушна ляжаў цяжар долі маёй!»

Матчыны рукі жвава-такі
Зрушылі з месца камень цяжкі.

— Мама, не трэба! —
Кінуўся ён.
Каменем важка
Зрынуўся сон.

А на мяжы — груша цвіла.
...З вечнасці маці дадому ішла.



Шукаючы ад скрушных дум збавення,
Гукаю зноў пагаслую вясну:
Сустрэчы нашай светлае імгненне
З-пад лёхаў хмурай памяці вярну.

Яно — жарына ў попеле,
раздзьмута
Мільгае буйназоры вугалёк.
Пячэ ў душы пачутага мінута,
Ґарчыць тугой і бачыцца здалёк.

Не просячы на долю блаславення,
Не шэпчучы ўсалоджанай хлусні,
Прыходзіш Ты —
трапёткае імгненне,
Праменнае, як зорка ў вышыні,

Глядзіш таемным позіркам іконы,
І свецяць вочы ясныя твае.
Мне іх святлынь жадобна піць да скону,
Яна, як Сфінкс, з загадкай паўстае.

Не маючы свяцейшага нічога,
Мая душа, ў малітвах не крыві.
Ты молішся пад небам, як на бога,
На гэты міг
Уладнае любві.

* * *

Куды прастуюць лёсу каляіны?
Яшчэ зялёнай гронкаю каліны
Трымціць на ветры ў завязі душа,
Узнесена над крохкасцю быцця.
Яшчэ не чуе спелае гарчыны,
Яшчэ смяецца свету,
Як дзіця...

* * *

Хутарок над плыткай рэчкай,
Стромы лес, віры жывыя.
Адзічэлаю парэчкай
Глянуць селішчы былыя.

Дзе стаялі густа хаты —
Атрухлелыя падрубы.
Тут магільны прыпах мяты —
Прыпах болю, прыпах згубы.

І на раніцы — тужліва
Рыпне весніца патрохі.
І падасца, як не дзіва,
Абудзіўся сон эпохі.

Дзед сівы, хто веку роўня,
Сад абходзіць у тумане.
Адзінотна зблякла поўня.
І кусты — былога здані.

Пазірае плот пахіла
Ды быльнёг на агародзе...
На кладах старой магіла...
Тут канчаецца стагоддзе.

Прыйдзе гэткая ж суседка.
Каля студні, у гаворцы
(Божы дзень — адзіны сведка)
З глыбі выцягнуць па зорцы.

* * *

Першы снег. І дарожны світанак.
Вышыня аблачын. Ясната.
Вось ён, памяці даўні паўстанак.
Калыхнецца ўспамінам вярста.

Тут, у белым бярозавым шуме,
Затанула, як лісце, лягло
Шчасце наша. І восеньскай думе
Набрыняць чарнатою дало.

Пад'язджаў — і душа лікавала,
Адступаліся цені нягод.
Ты на ўзбоччы дарогі стаяла
Колькі дзён беззваротных і год.

Што прыносіла з вёсен забытых?
Што шаптала, вятроў гарачэй?
Чым асмужана гралі блакіты
Неаднятых разлукай вачэй?

Разгушканыя, гонкія далі.
Сум — айчыннага шляху пароль.
Як хістаюцца дрогкія шалі
Чуйнай памяці:
Радасць і боль...

* * *

У далечы замецена снягамі
Імклівага разбегу палазня.
Скразны бальшак улёгся пад нагамі.
Сутонне ночы. І яснота дня.

Вякоў сівых вятрыстая навала
Твой чысціць дух да зорнай зіхаты.
З якіх дарог Надзея прычакала
Цябе, скажы?
Ці знаеш тое ты?!

Аплочаны — крывёй, слязой і потам
Твой дзень зямны... Ён згасне ў небыцці.
Ты існасць тых, хто шляхам пройдзе потым,
Спаўна жыццём упартым аплаці.

Аддай жывым душу сваю жывую,
Крыніцам і бярозам спагадай.
За лёт Зямлі, за яснасць светлавую
Агонь душы нястрачаны аддай.

Пакуль твая зямля жыве і родзіць,
Пакуль на ёй не ўсталі ўсцяж крыжы,—
Аглушанай, атручанай прыродзе
Пазбыцца горкіх страт дапамажы.

Акрылены надзеяю зямною,
Вядзі смялей за будучыню бой,
Злічыўшы тых, што леглі за спіною,
Згадаўшы тых, што ступяць прад табой.

* * *

Ратай і сейбіт,
крок за крокам
Ты мерыш лёсу баразну.
Уп'ешся ў даль жадобным вокам,
Жыцця агледзіш цаліну.

І, поўны раніншяе сілы,
Варожыш думай векавой:
Зямля наўсцяж — да небасхілу.
Пасеяць жыта — клопат твой.

Снуецца ў вышу прыпар тлусты
З-пад крылля чорнага варон.
Зямлі сырой накрылі лусты
Мільёны дзей, мільёны дзён.

Твая ралля растком прачнецца.
Лагодай сонца паласне,
І чутна вечнасць калыхнецца
У збажыне, у збажыне.



Праб'еціца скрозь шаты дзянніцы прамень,
Пакінуўшы лёту
Кароткую памяць.
Сышліся на схіле нябёс
Ноч і Дзень
І вогнішча паляць.

Над лесам сінечу
Ахопіць зара,
У буйную сілу
 агніста ўбярэцца.
І моўчкі падступіць на ўсход,
Да кастра,
Самотная Вечнасць
Сагрэцца...

* * *

Жыць ніцавока, прыкута? —
Сэрца, іначай жыві!
Ў жылах пульсуе пакута
Жаркім прылівам крыві.

Смутна згарнулі завеі
Крылы ў атрутных палях.
Ценькай, збалелай Надзеі
Густа замецены шлях.

Чым даражыць мы павінны?
Што на зямлі берагчы?
Спелае поле Айчыны,
Вечнасці нашай ключы.

Волю — крылатую птаху,
Мару — уцеху душы.
Нам бы, не знаючы страху,
Плыць у касмічным каўшы.

Сыдуць імклівыя часы
Ў лёхі сівой даўніны.
Зрынуць міжзорныя трасы
Клопат аседлы, зямны.

Сонцы сагрэюць чужыя
Нашу празяблую плоць.
Кіне ўдагон настальгія
Цягі радзіннай аброць.

Вернуцца душы-бадзіні,
Выпіўшы смутак нябёс,
Шар наш зялёны і сіні
Ўмыюць накрапамі слёз.

Космас убачыць раскуты
Бляскам праменнай вышы,
Як віраванне пакуты
Ўспыхне
                святлыняй душы.

* * *

Пакланяюся агню,
Хай гарыць, як бога вока.
Я агню забараню
З-пад рукі ісці далёка.

Пакланяюся вадзе,
Хай журчыць крыніц лагодай.
Я вадзе скажу: нідзе
Не прабудзь ліхой пагодай.

Пакланяюся лясам,
Хай плыве іх шум былінны.
Прыйдзе час: адпусціць сам
Лес сасну для дамавіны...

Нат у вечнасці на дне
Смуты сэрца не спазнае —
Будзеш грэць цяплом мяне
Ты, гармонія зямная.



Яшчэ цяплом шугае ветру лёт,
Яшчэ імжаць нябёсы цёпла, парна.
І горкне ў голлі тумановым плод,
Гаворачы: пражыты год не марна.

Ад завязі — да ядранай красы
Налітых шчок духмянiстага плоду —
Замкнуўся круг.
І чутны галасы
Тугі зямной, што зноў спаўе прыроду.

І гэты дзень, абпоены вадой,
Адну іскрыну будучага цвету
На дол аброніць мякка — яблык свой,—
Насуперак снягам і золі свету,

Каб яблыняю лёсу прарасці
На доле тым, дзе, сплецены травою,
Стагоддзі спяць.
І вып'ецца ў жыцці
Імкненне сокаў вечнае, жывое.

* * *

Мне пагрукае звечара
Птушка смуты зямной.
Дні пражытыя свечкамі
Замігцяць прада мной.

Азіраючы пожні,
Пройдзе нівай заходу прамень.
Што ж, бывай, мой апошні,
Лёсам кінуты сонечны дзень!

Я не буду ў знямозе
Весці дням парастрачаным лік,
На расстайным парозе
Нудзіць сэрца на ўскрык.

Не заплачаце вочы,
Я не першы на скрушнай вярсце.
Пыл зыбучы аднойчы
След астатні і мой замяце.

Колькі гора уведаў...
Не палошыць магільнае тхло.
Між трагедый і бедаў
Сонца долі зайшло.

Тут павінна адно быць:
Смех дзіцячы, лісцё і трава...
Ды жахотны Чарнобыль
Паліць свечкі ў маіх галавах.

# Няходжаны сусвет

Паэма

## 1

Адкрыйся мне, Сусвет,
Стаміўся я ў чаканні.
Жыццё чужых планет
Чутно ў тваім дыханні.

Таемным бляскам зор,
Касмічнаю шырэчай
Зацеплены прастор
Пуціны чалавечай.

Я крочу з даляў тых,
Дзе ў чэзласці пячорнай
Жахнуў мой зрок і слых
Агонь віхуры зорнай.

Узнёс святла парыў
Душы маёй адхланне
І богам адарыў
Нябеснае мірганне.

Пад стыласцю нябёс
Бяскрыла і прыкута
Багам мальбу я нёс,
Яна — душы пакута.

Жагнаўся,— пад рукой
Мінуўся час набожны,
Пад ношаю цяжкой
Урос у пыл дарожны.

Згасала ў міражы
Крылатай мроі воля.
Карэняцца ў душы
Глыбозна лес і поле.

Калоссем параслі
Узнятыя угоддзі.
Я стаўся да зямлі
Прыкутым на стагоддзі.

Бы ў люстры у крывым
Ў душы зырчэла неба,
Працягам агнявым
Гукала ў вышы нема.

І голасам тугі
Ў бяскрыллі, і ў бяссіллі
Старэчыя багі
Са мною гаварылі.

Я думаў: выпаў лёс
Сысці аседла ў спраты.
...Мяне высока ўзнёс
Касмічны век крылаты.

Вачамі зоркі п'ю,
Пакінуўшы планету,
На ўскраіне стаю
Агністага Сусвету.

Ён пошугам пячэ
І зорамі сцякае,
Няходжаны яшчэ,
У небны рэй гукае.

Дыханнем зорных дзён,
Імклівасцю палёту
Мяне адорыць ён
І дасць душы работу.

## 2

Над скутасцю зямной,
Над могілкамі суму
Мне зорнай цалінай
Сваю панесці думу.

Ад Сонца і Зямлі,
Ад вечнай таямніцы
Касмічна загулі
Душы маёй званіцы!

І хто я? І чаму
Мяне цікуе страта?
І розуму майму
Так дадзена багата.

Навошта ён, прыліў
Пакутных дум і зроку?
Я сэрца распаліў,
Сусвет аддаўшы воку.

З каменнай глухаты
Ступаў у часу далі.
Біблейскія «кіты»
З-пад свету выплывалі.

Між ніцавокіх дзей
Навошта мной пазнана,
Што ты, Зямля людзей,
Палётам разгушкана?

Прайшоўшы гнёт дарог,
Глынуўшы ўдосталь пылу,
Спакойна б я залёг
У чорную магілу.

З таемнасцю святла
Высокіх зор і неба
Ў зямлю б залёг, дала
Яна мне ўдосталь «хлеба»:

На жытнішчах сівых
Мячом не раз карала,
Калечыла мой слых
І вочы адбірала.

Ды ў перадыху сеч
Над тхлом сырой магілы
Метал дала на меч,
Метал дала на крылы.

І новы лёс круты
Падсек душы карэнне.
Зямля, тужыла ты —
Ірваў я прыцягненне!

Лячу над полем сеч
З пакутай і журбою.
Зямля, мой жорсткі меч
Занесен над табою!

Суцішаны яшчэ
Над прорваю нябыту,
Няўжо ён рассячэ,
Зямля, тваю арбіту?

Няўжо сумлення бог
Не ўстане над табою?
Няўжо сцячэш з-пад ног
Зыбучаю жарствою?

Мне крылы апячэш
Сваім пякельным страхам
І ў космас уцячэш
Астыглым, мёртвым прахам?

### 3

Ляці, Зямля, крыляй,
Спялі жывую мрою.
Запальвай небакрай
Світальнаю зарою.

Наступныя вякі
Вядзі сюды з далечы.
Ступае нацянькі
Мой розум чалавечы.

Хай не Сусвету дно,
Не хмурая бясконцасць,—
Яму, Зямля, відно,
Што ты — адна ля Сонца.

Няма такой другой
У блізкай небнай шыры.
Там я ступлю нагой
Па колкім мёртвым жвіры.

Ды ўсё ж — ля дальніх зор
Сышліся, як на вечы,
Планеты, дзе касцёр
Пачуццяў чалавечых.

Ля самых спелых зор,
Адданыя палёту,
Яны, вякоў віхор,
Закуты ў адзіноту.

Душы маёй струна
Абсягі працінае:
Матэрыя адна —
Касмічная, зямная!

І ў Сонцы, і ў траве,
Ў азоце і ў азоне
Яна наскрозь плыве
Ва ўсёй бясконцай зоне.

Яе павечны круг
Дыханнем наплывае.
Вітай Сусвету рух,
Матэрыя жывая!

Згасаючы ў хадзе
Святлом праменных зорак,
Насустрач нам ідзе
Яна і слепіць морак.

Гукае дух яна
На шыры агнявыя,
Кідаючы з сяўна
Віхуры дзей жывыя.

Гадуючы грамы,
Мкне зорнае свячэнне.
Не выключэнне мы —
Сусвету прызначэнне!

Прыйшоўшыя калі
Пад Сонца, на пламенне,
Падданнікі Зямлі,
Зямнога прыцягнення.

І ўсё ж?.. І ўсё ж!.. І ўсё ж...
Туга шугае ройна.
Чужых галактык дождж
Шчакі кранецца мройна.

## 4

Ды ўсё ж — шугаць агню
Ракетнаму нязвычна.
Сусвету глыбіню
Адчуць, як ёсць, фізічна.

Туды ступіць, адкуль
Плыве галактык ззянне.
Спінаць касмічны руль,
Сказаўшы: «Да спаткання!»

Прайсці па паласе
Ў бясконцасці ў палоне,
Што Вечнасць паднясе
На выстылай далоні.

Бясконцы зорны рух,
Наўкол — планет калыскі.
Нашчадку займе дух
Палёт з Зямлі няблізкі.

Адзінаю тугой
Туга вяртання стане.
Стракатасцю другой
Услед міжзор'е гляне.

Праменьчыкам святла
Пагаснуць небасхілы
Планеты, што дала
Твайму палёту крылы.

І згубіцца ў вышы
Скразной касмічнай волі
Зямля. Але ў душы
Не згубіцца ніколі.

## 5

Пачуй «свая кругі»,
Вандроўніца-надзея.
Гарчыстае тугі
Брыдзе зямная дзея.

У краплiне дажджу
Паўсюд дрыжыць атрута.
Ірві, Зямля, імжу,
Да зор ляці раскута!

Не сцюжную зіму —
Прадонніцу магілы,
Ты розуму майму
І сілы дай, і крылы.

Бязмежжа пустаты
Прайсці мне дай у лёце.
Па розуму браты
Ля зор у адзіноце.

Упэўненасць маю
Дыханне зорак грэе.
Іх сэрцам прызнаю,
Яны — шляхоў надзея.

Сусветнага руна
Ляжаць наўсцяж сувоі.
Матэрыя — адна,
Быццё яе — жывое!

Агністая бруя
Гадуе ў небе зоры.
Адзіны голас я
Ў яе касмічным хоры.

Сяйво прыкутых дзён
Пад ношаю пакуты.
Я — голас! Толькі ён
Ля зор другіх ці ўчуты?

Над доляю зямной
Агонь міргае зорны.
Чарнобыль нада мной
Узносіць крыж прачорны.

Стагоддзі — за спіной,
Наперадзе — магіла?
Былінкаю зямной
Упасці мне пахіла?

Стыхіяй агнявой
Спаліць лясы, аблокі?
І хваляй светлавой
Пайсці да зор далёкіх?

Няўжо ён, шлях, такі —
Пакутны, згубны, мёртвы?
Пустэльнікі-вякі
Наўзбоч яго прымоўклі.

Няўжо, працяўшы стынь
Раскутае прасторы,
Мне так дайсці да тых,
Хто ў небе бачыць зоры?

Я чую іншы лёт,
Ён — вечны кліч сумнення.
Ён ад усіх нягод
Тваіх, Зямля, збавенне.

У водбліску камет
Таемны след знямогі:
Няходжаны Сусвет
Паслаць увесь пад ногі!

# Змест

## ПАМЯЦЬ СОНЦА

## НЯХОДЖАНЫ СУСВЕТ

Мятліцкі М.

М 99 Палескі смутак: Вершы і паэма.— Маст. літ., 1991.— 287 с., іл.

ISBN 5-340-00655-7.

Метлицкий Н. Полесская печаль: Стихи и поэма.

«Палескі смутак» — працяг шчырай размовы з чытачом лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі паэта Міколы Мятліцкага. У эпіцэнтры паэтычнага клопату — чалавек-сучаснік, ад спраў і памкненняў якога цалкам залежыць духоўная паўната нашага цывілізаванага побыту. Смутак лірычнага героя прасветлены неабвержнай хадой перамен; актыўнасць грамадзянскай пазіцыі страсна абвяргае праявы местачкова-прыземленай псіхалогіі ўчарашніх «слуг народа», чыімі намаганнямі быў створаны ў 50—70-я гады сумнавядомы застой.

$М\frac{4702120202-104}{М 302(03)-91}63-91$ ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

МЕТЛИЦКИЙ НИКОЛАЙ МИХАЙЛОВИЧ

ПОЛЕССКАЯ ПЕЧАЛЬ

Стихи и поэма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

МЯТЛІЦКІ МІКОЛА МІХАЙЛАВІЧ

ПАЛЕСКІ СМУТАК

Вершы і паэма

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастацкае афармленне А. М. Малышавай. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 3466

Здадзена ў набор 15.06.90. Падп. да друку 15.07.91. Фармат 84×90¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,60. Ум. фарб.-адб. 12,78. Ул.-выд. арк. 8,15. Тыраж 6000 экз. Зак. 519. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.